PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 44 (2216) Год XLIII Беласток 1 лістапада 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Крэпасць Беларусь

Яўген Мірановіч

Брэсцкая крэпасць з'яўляецца ў Беларусі сімвалам савецкага патрыятызму. Жыхары горада і ўсёй краіны ганарацца тым, што ў чэрвені 1941 г. чырвонаармейцы паўстрымоўвалі тут нямецкія атакі нават тады, калі дывізіі Вермахта былі ўжо каля Менска. „Горад-герой" — пішацца пра Брэст у турыстычных даведніках. У крэпасці гарыць „вечны агонь", спадчыннікі камсамольцаў трымаюць ганаровую варту.

На тэрыторыі крэпасці ёсць таксама астаткі царквы, дзе ў 1596 годзе праваслаўнымі епіскапамі і святарамі была падпісана унія, якая падпарадкоўвала Праваслаўную царкву ў Рэчы Паспалітай рымскім папам. Захаваліся таксама руіны Белага палаца, дзе ў 1918 годзе бальшавікі падпісвалі з немцамі пагадненне аб заканчэнні вайны на ўсходнім фронце. Экскурсаводы не ўспамінаюць аднак аб гэтых падзеях. Праўдападобна ведаюць аб іх, аднак імкнуцца, каб гэты музей, які займае пару соцен гектараў, асацыяваўся наведвальнікам толькі з гераізмам савецкіх салдат у 1941 г.

Пару месяцаў таму Аляксандр Лукашэнка параўнаў ролю сучаснай Беларусі да тае, якую выканала Брэсцкая крэпасць падчас першых дзён нямецка-савецкай вайны. Вораг з Захаду — у сучасным разуменні капіталізм і дэмакратыя — пайшлі на Усход, у Маскву і далей. Беларусь затрымала гэтую навальніцу і абараніла асноўныя прынцыпы савецкага грамадскапалітычнага парадку.

Нядаўна галоўную вуліцу Брэста — Маскоўскую — перайменавалі на праспект Пятра Машэрава. Хаця і папярэдняя назва вуліцы была слушнай, аднак улады горада вырашылі аддаць гонар першаму бальшавіку пасляваеннай Беларусі. Пётр Міронавіч Машэраў у 1955-1959 гадах быў І сакратаром Абласнога камітэта Камуністычнай партыі Беларусі ў Брэсце, пасля, у 1965-1980 гадах, узначальваў звыш двухмільённую арганізацыю камуністаў у БССР. Яго панаванне запамяталася жыхарам Беларусі як эпоха вялікага дабрабыту. Пра такія дробязі, як знішчэнне па волі Машэрава пару соцень помнікаў беларускай спадчыны, астаткаў беларускай культуры, поўную русіфікацыю школьніцтва ніхто нічога ў Брэсце не хоча ведаць.

У музеі імя Машэрава знаходзіцца пастаянная экспазіцыя, прысвечаная памяці гэтага бальшавіцкага героя. З набожнай пашанай, з адданасцю місіянера пра яго працу і змаганне за шчасце рабочага класа расказвае экскурсаводка. Са шчырасцю прызнаецца, што ведае толькі адну дзяржаўную

[працяг ☞ 4]



Злева: Сакрат Яновіч, Томас Венцлова і Тамаш Лубенскі.

**Святкаванне 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча набірае колераў**

## „На Божом судзе..."

Ада Чачуга

Ізноў у Беластоку было тры дні для Міцкевіча. Ад 8 да 10 кастрычніка пад патранатам Фонду „Пагранічча" з Сейнаў, мастацкага аб'яднання „Карткі", Ваяводскай публічнай бібліятэкі і іншых спонсараў праходзілі так званыя Сустрэчы на пагранiччы, на гэты раз пад шыльдай: „Міцкевіч і мы".

Ну, а калі ўжо так, дык і зацікавілі нас найбольш тыя імпрэзы, якія мелі дачыненне да беларускіх аспектаў творчасці Міцкевіча.

Такіх мерапрыемстваў мела быць прынамсі чатыры (улічваючы два канцэрты: „Рамантычнасць" і „Песні Вялікага княства Літоўскага"). А было, можна сказаць, два з паловай. Не адбылася шматабяцаючая дыскусія „Паміж Міцкевічам і Пушкіным", якая мела праходзіць у кавярні „Фама". Галоўнай тэмай яе мела быць пытанне, што значыць Міцкевіч для беларускай культуры. Павінны былі прыехаць госці з Беларусі і Польшчы, і ў „Фаме" сабралася шмат людзей, прагных пачуць нешта цікавае, рэвеляцыйнае. На жаль, усяго адзін Сакрат Яновіч, тутэйшы беларускі пісьменнік, быў гатовы да дыскусіі, і імпрэзу адклікалі. Ніхто не прыехаў ні з Беларусі, ні з Польшчы.

На канцэрт, які павінен быў адбыцца пасля дыскусіі ў „Фаме", сышлося яшчэ больш людзей. Сярод іх пераважалі тыя, што прыйшлі паслухаць Віктара Шалкевіча. Калі высветлілася, што яго не будзе (некаторыя шапталі, як заўсёды, што „не пусцілі", іншыя — што бард пра імпрэзу нічога не ведаў), многія выказвалі свой жаль і расчараванне.

У нейкай ступені кампенсавала іх смутак Марыя Круповес з Вільні, якая спявала польскія, беларускія, літоўскія і яўрэйскія песні з Віленшчыны і Беларусі. Калі сваім моцным, неспажытым голасам пачала спяваць Іаанна Равік (яна ж таксама з пагранiчча, бо нарадзілася ў Румыніі), публіка памаленьку пачала разыходзіцца. Нават такая спявачка, як Іаанна Равік, не змагла іх затрымаць, калі яны прыйшлі на беларускую імпрэзу, якой фактычна не было, калі не лічыць некалькіх беларускіх песень, па-майстэрску выкананых Марыяй Круповес.

Затое „Дыялог аб Міцкевічу", які адбываўся ў палацы Браніцкіх, лічу, быў вельмі ўдалы. Праўда, у пачатковай версіі ў сустрэчы мелі ўзяць удзел Чэслаў Мілаш і Васіль Быкаў, але, хаця замянілі іх Тамаш Лубенскі і Сакрат Яновіч, дыскусія была цікавая. Літоўцаў прадстаўляў, як і планавалася, Томас Венцлова.

У вялікай зале палаца сабралася шмат маладых людзей, і не думаю, каб іх усіх сюды прыгналі. Адны з іх слухалі ўважліва, іншыя ўсміхаліся іранічна ці паблажліва, калі Яновіч гаварыў пра супольнасць лёсу польскага і беларускага народаў на працягу паўтысячы гадоў, пра супольныя прозвішчы: Міцкевіч, Яновіч, Багушэвіч, Марцінкевіч.

[працяг ☞ 8]

## Арлянскія круцельствы

У гміне Орля зарэгістраваліся 52 кандыдаты на 18 месц у радзе. У ходзе кампаніі здарылася і так, што адзін з кандыдатаў атрымаў па пошце ананімку, у якой нехта пагражаў яму шыбеніцай і падпалам клуні, калі не здыме сваю кандыдатуру. Аднак ён не перапалохаўся і... выйграў.

[выбары ў гміне ☞ 3]

## Рамонт ідзе!

У чэрвені гэтага года адбыліся змены ў Беластоцкім драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі. Новым дырэктарам стаў Анджэй Кароляк. „У гэтым годзе кантакты з мінскім тэатрам імя Купалы, з якім мы супрацоўнічалі, не могуць быць занадта цесныя, — кажа ён. — Але ў будучыні, калі тэатр будзе адрамантаваны, гэтыя кантакты ізноў наладзяцца. Беластачанам беларуская культура блізкая".

[інтэрв'ю ☞ 4]

## Вуліца Добрай Надзеі

Ёсць у гарадах вуліцы ахвяраваныя Дзяржынскім і Антыдзяржынскім, ёсць вуліцы імператарам і камісарам, магнатам і пралетарыям. Наша вуліца жыве сваім жыццём. Ні ідэалагічныя хістанні, ні палітычныя катаклізмы не прымушаюць яе, каб мяняць імя ці пераадзявацца ў чужыя транты. Вуліца Добрай Надзеі — так было заўжды...

[апавяданне ☞ 5]

## Парафія ў Дубічах-Царкоўных

У 1533 годзе Сігізмунд Аўгуст даў дазвол на пабудову царквы ў Дубічах, і гэта першыя пісьмовыя звесткі пра наш прыход. У спісках Падляшскага ваяводства ад 1661 года, апрача назвы Дубічы, паяўляецца назва Жыровец, якая абазначае луг або кусты. Яна захавалася да сённяшняга дня. Людзі гавораць, што спачатку царква апосталаў Пятра і Паўла была на ўзгорку, паблізу рэчкі Арлянкі і ўрочышча Бахматы.

[расказ настаяцеля ☞ 9]

## У шапачцы народжаны

Спыніліся мы ў Пружанах на палянцы для бежанцаў. Раптоўна падышоў фронт. Нас у палон захапілі немцы. Загадалі вяртацца дамоў. З намі вярталася каля дваццаці падвод з чарамшукамі.

[успамін ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Правы чалавека ў Беларусі

**(люты — кастрычнік 1998 г.)**

Нацыянальная адукацыя ў Беларусі знаходзіцца пад пагрозай.

Беларускі гуманітарны ліцэй — адзіная ў Беларусі каледжнага тыпу вучэльня, дзе навучанне адбываецца цалкам на беларускай мове. Вясной 1998 года бацькоўскі камітэт ліцэя атрымаў інфармацыю пра падрыхтаваны міністэрствам адукацыі праект, згодна з якім Беларускі гуманітарны ліцэй плануецца аб'яднаць з ліцэем пры Беларускім дзяржаўным універсітэце. Па сутнасці, гэта азначае ліквідацыю Беларускага гуманітарнага ліцэя як навучальнай установы. У выніку аб'яднання Беларускі гуманітарны ліцэй страціць не толькі сваю юрыдычную самастойнасць, але і адукацыйную адметнасць. (...) Пільную ўвагу ўладаў да Беларускага гуманітарнага ліцэя можна патлумачыць тым, што гуманітарны ліцэй — той адукацыйна-культурны асяродкак, у якім выхоўваюцца нацыянальна свядомыя высокаадукаваныя кадры, якія ў будучым могуць скласці рэальную небяспеку для існавання дыктатарскага рэжыму ў Беларусі.

Толькі дзякуючы пікетам ды іншым акцыям пратэсту бацькам удалося адстаяць ліцэй. Аднак, дырэктар ліцэя Уладзімір Колас быў звольнены з пасады міністэрствам адукацыі.

У новым навучальным годзе беларускія ўлады працягваюць антынацыянальную палітыку ў галіне адукацыі.

У пачатку новага 1998/1999 навучальнага года, мінскія школьнікі Аляксандр і Зміцер Іокшы не селі за парты. Раней браты вучыліся ў беларускіх класах СШ № 166 г. Мінска.

У 1997/1998 навучальным годзе клас, у якім вучыўся Зміцер Іокша, быў пераведзены на рускую мову навучання. Бацькі былі вымушаны перавесці сына ў СШ № 48, дзе захаваўся беларускамоўны клас. У РАНА (Раённым аддзеле адукацыі) гарантавалі, што гэты клас не зачыніцца, але праз год клас быў пераведзены на рускую мову навучання. Тое самае здарылася і з класам старэйшага брата — Аляксандра. Побач з домам сям'і Іокшаў не знайшлося беларускай школы. Бацькі адмовіліся ад навучання сваіх дзяцей на рускай мове, і браты Іокшы не пайшлі ў школу. За гэты ўчынак дзяцей разам з бацькамі выклікалі ў РАЎС Фрунзенскага р-на, г. Мінска на пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх. Бацькі патлумачылі камісіі, што іх дзеці па Канстытуцыі маюць права навучацца на роднай мове. У адказ бацькам было чарговы раз прапанавана змяніць школу.

Грамадскасць Беларусі занепакоена станам нацыянальнай адукацыі ў краіне.

16 верасня 1998 г. у Мінску па ініцыятыве Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны адбыўся мітынг у абарону беларускай нацыянальнай адукацыі і ў падтрымку ідэі стварэння беларускамоўнага нацыянальнага універсітэта.

Улады дазволілі на мітынг з умовай, што на ім будзе не больш за 300 чалавек.

На мітынгу быў працытаваны фрагмент са стэнаграмы сустрэчы прэзідэнта РБ з членамі Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў 5 жніўня 1998 г., падчас якой Аляксандр Лукашэнка сказаў: „Для мяне, як для палітыка пытанне двухмоўя ўжо вырашанае: у Беларусі роўнасць моў — і рускай, і беларускай. І калі недзе дзікасці нейкія праяўляюцца, хтосьці з чыноўнікаў забараніў беларускую мову, і беларускія класы, даў каманду на згортванне вывучэння беларускай мовы, робіць націск на бацькоў — рашуча буду спыняць, нават калі гэта адзінкавыя факты".

Але выказванне прэзідэнта РБ супярэчыць фактам, якія прыводзілі ўдзельнікі мітынгу. Пераважная большасць з іх — бацькі, якія не могуць забяспечыць сваім дзецям атрыманне адукацыі на роднай мове.

Удзельнікі мітынгу называлі наступныя лічбы: калі ў 1994 годзе ў Мінску з 240 школаў 136 мелі статус беларускіх, то на сённяшні дзень знайсці беларускую школу ў сталіцы Беларусі — вялікая праблема, беларускія класы зачыняюцца адзін за адным.

*З рапарту*
*Праваабарончага цэнтра „Вясна-96"*

## Зварот да старшыні Саўміна Сяргея Лінга і міністра адукацыі Васіля Стражава, прыняты 16.09.1998 г. на мітынгу, арганізаваным Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны і Маладзёжным грамадскім аб'яднаннем „Хлоя" ў падтрымку беларускамоўнай адукацыі і ідэі стварэння беларускага Нацыянальнага універсітэта.

Мы, удзельнікі мітынгу, патрабуем ад урада і Міністэрства адукацыі адкрыць у наступным навучальным годзе ў г. Мінску Беларускі Нацыянальны універсітэт. На сённяшні дзень у Беларусі маецца больш за 100 дактароў навук і 400 кандыдатаў, якія хочуць і могуць выкладаць па-беларуску.

За гады апошняй хвалі Адраджэння (1991-1994 гг.) надрукавана дастатковая колькасць падручнікаў і даведачнай літаратуры па-беларуску. Таму ТБМ лічыць, што адмова ў стварэнні БНУ з'яўляецца з'явай палітычнай і не робіць гонару сённяшняй беларускай уладзе.

ТБМ паведамляе, што ў мінулым годзе было сабрана 7 000 заяў за адкрыццё БНУ, якія збіраюцца і па сённяшні дзень.

Мы спадзяемся, што ў XXI стагоддзі Беларусь будзе мець Вышэйшую Нацыянальную школу, як і большасць еўрапейскіх краін.

**У днях 14-16 кастрычніка 1998 года ў Варшаве праходзіла III Міжнародная канферэнцыя па правах чалавека. На гэтым форуме дэмакратычныя дзеячы з розных краін свету правялі ацэнку выканання правоў чалавека, між іншым, у Расіі, Чачні, Карэі, Беларусі, Кубе, Кітаі і Тыбеце. Ніжэй друкуем рэзалюцыю ў справе Беларусі.**

## Становішча з правамі чалавека ў Беларусі

III Міжнародная канферэнцыя па правах чалавека, удзельнікамі якой з'яўляюцца выдатныя грамадскія дзеячы, праваабаронцы, палітыкі, вучоныя, прадстаўнікі духавенства, ахвяры палітычных рэпрэсій з розных краін свету,

• з трывогай адзначаючы пагаршэнне становішча з правамі чалавека ў Беларусі і нежаданне беларускіх улад забяспечыць выкананне правоў чалавека і асноўных свабод у адпаведнасці з прынцыпамі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, 50-годдзе якой у гэтым годзе адзначаем на ўсім свеце;

• выказваючы заклапочанасць тым,

— што беларускія ўлады падвяргаюць ганенням незалежную прэсу і журналістаў, імкнучыся ўстанавіць поўную манаполію на сродкі масавай інфармацыі;

— што ў беларускіх турмах трымаюць палітзняволеных;

— што ў Беларусі адсутнічае незалежная судовая сістэма;

— што ў краіне падаўляюцца эканамічныя свабоды і прыватная ініцыятыва;

— што парушаюцца правы прафсаюзаў;

— што ў краіне створана сістэма жорсткага эканамічнага і фінансавага падаўлення асноўных правоў і свабод грамадзян, крымінальнага і адміністрацыйнага праследавання за рэалізацыю гэтых правоў;

— што іншадумцы пазбаўлены магчымасці працаўладкавання;

— што расце лік палітычных бежанцаў з Беларусі;

• будучы ўстрывожаны тым, што ў Беларусі на практыцы не рэалізуецца права выбару мовы навучання, гэтым самым ствараюцца перашкоды для развіцця беларускай мовы і культуры;

• усведамляючы небяспеку антыдэмакратычнага развіцця Беларусі для міжнародных намаганняў па абароне правоў чалавека і для міжнародных адносін у цэлым;

1. заклікае прэзідэнта і ўрад прытрымоўвацца абавязацельстваў Беларусі, якія яна ўзяла на сябе ў адпаведнасці з міжнароднымі пагадненнямі ў галіне правоў чалавека, асабліва з Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, Міжнародным пактам аб сацыяльных, эканамічных і культурных правах, дакументамі АБСЕ, перш за ўсё Венскай дэкларацыяй і Праграмай дзеянняў;

2. заклікае беларускія ўлады неадкладна вызваліць палітычных зняволеных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі А. Клімава, У. Кудзінава, а таксама А. Шыдлоўскага, Г. Кійко, В. Лыско, У. Плешчанку;

3. выказвае сваю салідарнасць з дэмакратычнымі сіламі Беларусі, грамадскімі рухамі і арганізацыямі, якія адстойваюць прынцыпы дэмакратыі і правоў чалаека.

*Варшава, 16 кастрычніка 1998 года.*

## Адкрыты ліст Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку

Шаноўны спадар Прэзідэнт!

Дабрабыт любой краіны будуецца на магчымасці грамадзян свабодна зарабляць сабе на жыццё за кошт сваіх намаганняў, умельстваў, талентаў. Забарона свабоднай працы ва ўмовах свабоднага рынку парушае асноватворныя прынцыпы Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека (ст. 1 і ст. 7). Мы выказваем глыбокую занепакоенасць нарастаючай хваляй рэпрэсій супраць незалежнай прыватнай ініцыятывы. Указам № 208 і тэлеграмай ад 18 жніўня 1998 года Вы паставілі сябе ў становішча апазіцыі ўсяму грамадству, дазволіўшы чыноўнікам „вертыкалі" ў пазасудовым парадку забараняць людзям працаваць, займацца прыватнай справай (ад недзяржаўных тэатраў, майстэрняў архітэктараў і мастакоў, клубаў аматараў жывёлы і да свабоднага продажу тавараў па рыначных цэнах і вядзення прыватных сялянскіх гаспадарак).

Мы звяртаемся да Вас з настойлівым патрабаваннем не перашкаджаць стварэнню ў Беларусі незалежных прадпрымальніцкіх арганізацый, адмяніць Указ „Аб упарадкаванні дзейнасці суб'ектаў гаспадарання" (№ 208), Дэкрэт № 1, Дэкрэт № 12, Дэкрэт № 15 „Аб неадкладных мерах па абароне спажывецкага рынку" (ад 4 жніўня 1998), Вышэйшую ўрадавую тэлеграму ад 18 жніўня 1998. Мы таксама настойваем на спыненне праследавання прыватных натарыусаў, прыватных прадпрымальнікаў і на аднаўленне інстытута прыватнай адвакатуры.

Звяртаем Вашу ўвагу, што ў Беларусі дзейнічаць антырыначныя стацці крымінальнага кодэкса „Спекуляцыя", „Парушэнне парадку ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці", „Парушэнне парадку ажыццяўлення валютных аперацый", якія супярэчаць міжнароднаму праву і Дэкларацыі правоў чалавека. Мы патрабуем забяспечыць незалежны адкрыты судовы разбор у адносінах да дэпутатаў Вярхоўнага Савета Андрэя Клімава, Уладзіміра Кудзінава, а таксама Васіля Старавойтава. Мы патрабуем выключыць палітычную прадузятасць да любой прыватнай ініцыятывы.

Удзельнікі міжнароднага семінара „За эканамічныя свабоды": **Шушкевіч Станіслаў** — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, старшыня БСДГ, **Шаўчэнка Валерый** — старшыня Незалежнага прафсаюза прыватных прадпрымальнікаў г. Полацка і Наваполацка, **Абадоўскі Сяргей** — дырэктар Магілёўскага праваабарончага цэнтра, **Кабяляцкі Сяргей** — партнёр юрыдычнай фірмы „Еўралекс", **Аўсяннік Сяргей** — член інфармацыйнага грамадскага цэнтра „Эпоха", **Пліско Міхаіл** — намеснік старшыні выканкама Аб'яднанай грамадзянскай партыі (Беларусь), **Дуляненец Віталь** — дырэктар інфармацыйнага грамадскага цэнтра „Эпоха", **Ялфімаў Віктар** — старшыня Гомельскай рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза беларускага, **Віктар Сакірко** — старшыня Таварыства абароны асуджаных гаспадарнікаў і эканамічных свабод (Расія), **Стралкова Алена** — галоўны рэдактар незалежнага беларускага часопіса „Эпоха", **Леванеўскі Валерый** — старшыня прафсаюза прадпрымальнікаў г. Гродна.

# Палітычны нюх Кастуся Л.

Калі ў Я., вёсачцы што непадалёк мяжы з Беларуссю, папытаеце пра самаўрадавыя выбары, перш за ўсё раскажуць вам пра свайго кандыдата.

— Я то і не збіраўся на тое галасаванне, — кажа дзядзька Апанас.

— І жонцы сказаў, каб дома сядзела. Бо што з таго, што раней на яго галасавалі? — махае рукой старажыл. — Нічога ў нашай, забытай Богам і людзьмі вёсачцы не змянілася. Ні тэлефонаў, ні вады, ні нават добрай дарогі мы не дачакаліся.

У гміне Г., адкуль нашы героі, быць радным — прэстыж. І Канстанцін Ліпко (хай так завецца кандыдат) рашыў змагацца за месца раднага. Ліпко пастараўся, каб сябры па веравызнанні і нацыянальнасці не выставілі яму канкурэнцыі. Ён, як „незалежны", меў толькі перамагчы аднаго „незалежнага" — католіка. І каб дасведчыць смаку перамогі, Ліпко рашыў дапамагчы сваім выбаршчыкам. Зразумела, у дзень выбараў.

— Было ўжо позна, — успамінае дзядзька Апанас. — Я накарміў кабылу і сеў аглядаць тэлевізар. Аж тут бачу — Ліпко сваёй машынай на панадворак едзе. І ў хату замашыста ўваходзіць. Дык я шусць, схаваўся ў чысты пакой, за шафу спратаўся.

— На выбары вас, цётко, завязу, — прапанаваў Апанасавай жонцы кандыдат. — А дзе дзядзька ваш?

— Ён, ён... жывёлу корміць, — дрыжачым голасам вымавіла цётка Галена, не навыклая хлусіць у жывыя вочы.

— То я ў вас пабуду, пачакаю дзядзькі Апанаса.

Ліпко сеў за стол і пачаў сёрбаць гарачую каву. Праз дзесяць хвілін у хату зайшлі жанчыны з Я., якія таксама ехалі галасаваць на нашага кандыдата і дагэтуль сядзелі ў яго машыне.

— Доўга ваш чалавек упраўляецца, — злосна сказаў Ліпко.

Цётка Галена перапалохалася насмерць. Усё ёй здавалася, што праз хвіліну яе Апанаска кашляне або нечым грымне. І тады што рабіць? Ой, прапала б іх бедная галоўка! Ліпко жа ж лекар, ён адпомсціць, калі пра абман здагадаецца.

Усё аднак мірна закончылася. Жанчыны з Я. аддалі свае галасы за Канстанціна Ліпко, кандыдата „незалежнага".

— І які той Кастусь нюх мае? — не маглі надзівавацца ў Я.

Так, шаноўныя. Прыплюшчце вока на трывогу старога Апанаса і ягонай жонкі. Наш кандыдат перамог. Праўда, толькі двума галасамі.

**Ева Сцепанюк**

PS. У акрузе Ліпко зноў будуць выбары. Канкурэнцыя даказала наяўнасць агітацыі ў дзень выбараў.

# З аднае мукі хлеб

Завёў я аднойчы гаворку на рыначку ў Чаромсе са знаёмым агароднікам з Малиннікаў.

— Чарамшукам пазайздросціць трэба, — кажа мой суразмоўца. — Усяго на месцы ўдосталь. Нават хлеб, які хочаш выбірай: з Сямятычаў, Нурца, Гайнаўкі, Кляшчэляў. Гэта не тое, што ў Малінніках. З аднае пякарні. Які прывязуць, такі купляць мусіш!

І гэта праўда! Я прывык ужо да кляшчэлеўскага. Ён мне найсмачнейшы!

У Кляшчэлях нешта перамянілася апошнім часам. Выпякаюць такі пухкі хлеб, што абы-якім нажом не ўрэжаш. Кажуць, што разрыхляючыя сродкі прыбаўляюць. І я такой думкі быў. Аднак мазгі мае праясніліся, калі пагаварыў з уладальнікам пякарні ў Кляшчэлях Валянцінам Шчукам.

— Не вер нікому, — сказаў ён мне. — Ніякай хіміі не дадаем. Мука, соль, вада ды натуральная закваска. І гэта ўсё. А што такі пухкі хлеб атрымоўваецца, гэта па прычыне тэхналогіі выпечкі. Я хлеб выпякаю ў трох печах. Адна, самая старая, на вугаль. Дзве апошнія — на дызельнае масла. У снежні мінулага года я купіў новую печку „Revent-616". Гэта найнавейшая шведская тэхніка на Беласточчыне.

Праз хвіліну я быў у пякарні. Пекар спыніўся побач печкі „Revent", узяў вазок з сеткамі, на які кладуць сфармаваныя боханы хлеба, прыціснуў кнопку і печка адчынілася. Затым засунуў возік, уключыў печку і ўсё як у казцы пачало круціцца (эх, і тэхніка!).

— Сфармаваныя боханы ляжаць на спецыяльных сетках. Таму іх спод не пасыпаем ні мукою, ні вотруб'ем, — паясняе прадпрымальнік. — А выпечка адбываецца пад уздзеяннем гарачага паветра ў тэмпературы 240-250 градусаў з усіх бакоў. Самае характэрнае для справы тое, што пасля выняцця гатовай партыі хлеба, праз некалькі хвілін можна загружаць новую порцыю (у старой печцы трэба чакаць гадзіну, пакуль нагрэецца яна да адпаведнай тэмпературы). Нічога асаблівага тут няма, апрача сучаснай тэхнікі, — завяршае гаворку ўладальнік пякарні.

Выпечка хлеба адбываецца на працягу 40 хвілін, з чаго атрымоўваецца 120 кг. гатовых вырабаў. У пераліку на грошы, складае гэта суму 7,5 зл. крыху даражэй як вугаль, — кажа прадпрымальнік. — Аднак улічыўшы чысціню, эканоміку абслугі і час вытворчасці, усё памяншае кошты. Калі нехта будзе гаварыць пра хімію ў пякарні, не верце. З аднае мукі пячэм хлеб, — кідае на развітанне Валянін Шчука. — Толькі хлеб розны атрымоўваецца, у залежнасці ад таго, як яго выпякаем.

**Уладзімір Сідарук**

# Арлянскія круцельствы

**У Арлянскай гміне за восем апошніх гадоў самаўрадавага кіравання мясцовыя ўлады непрыхільна ставіліся да грамадскіх прапаноў. Часта ігнараваліся патрабаванні жыхароў мястэчка і гміны, што ў сваю чаргу выклікала крытыку гмінных чыноўнікаў. „Людзі перакананы, — кажуць жыхары, — што самаўрады гэта перш за ўсё карысць для самой гміннай улады, якая можа разлічваць на безадказнасць". Гэтыя ж улады рабілі ўсё, каб ранейшая сітуацыя не змянілася.**

### Пасля спынення паўнамоцтваў рады

Калі Гміннай радзе скончыліся чатырохгадовыя паўнамоцтвы, 18 чэрвеня сабралася ўправа гміны, каб прыняць тыя рашэнні, якія раней маглі аспрэчыць радныя. Пра пасяджэнне нічога не ведаў радны і член управы Мікалай Рэнгайла. У такі бяспечны спосаб управа гміны вырашыла купіць машыну маркі „Міцубішы" — у месца прапаўшага падчас падарожжа па Беларусі „Фольксвагена". У падобны спосаб пачаўся распродаж гміннай маёмасці. У кастрычніку — на гэтае пасяджэнне радны Рэнгайла быў запрошаны на дзве гадзіны да яго пачатку — былі прададзены будынкі былога пастарунка паліцыі ў Орлі і школы ў Пашкоўшчыне ды дзялянка з артэзіянскай студняй у Алекшах.

### Выбарчая кампанія

Каб прыдбаць сабе прыхільнікаў у вёсках, войт вырашыў усе інвестыцыі накіраваць у гэтым годзе ў заходнюю частку гміны, пакараўшы такім чынам непаслухмянае мястэчка. На вёсках выбарчай кампаніяй таксама кіравалі гмінныя чыноўнікі. Часам яны і былі ініцыятарамі вулучэння кандыдатаў у дэпутаты ў паасобных вёсках. „От, прыехалі і сказалі, што мне трэба быць кандыдатам, — кажа адзін вясковец. — Я нават сам подпісаў у падтрымку не збіраў, бо не разбіраюся ў гэтым..."

У гміне Орля зарэгістравалася 26 выбарчых камітэтаў, якія прапанавалі 52 кандыдатаў (Гмінная рада налічвае 18 радных). У самой Орлі за чатыры месцы ў радзе змагаліся 18 кандыдатаў. У іх ліку былі 3 жанчыны, 3 пенсіянеры і 3 радныя папярэдняга склікання. Ніхто з кандыдатаў, апрача ніжэйпадпісанага, не прадставіў выбаршчыкам сваёй выбарчай праграмы.

У ходзе кампаніі здарылася і так, што адзін з кандыдатаў атрымаў па пошце ананімку, у якой нехта пагражаў яму шыбеніцай і падпалам клуні, калі не здыме сваю кандыдатуру. Ананімны ліст быў перададзены ў паліцыю, вядзецца следства. Аднак адрасат ліста не перапалохаўся і выйграў на выбарах.

### Дзень выбараў

11 кастрычніка арлянцаў узбудараваў факт, што ў выбарчай камісіі № 1, якая налічвала дзевяць чалавек, большасць складалі члены сем'яў і пляменнікі кандыдатаў. Выбаршчыкі баяліся, што такой камісіі можа не хапіць аб'ектыўнасці. „Цяпер нельга ўжо нікому верыць! Гэта ж адзін вялікі скандал", — сказала Таіса Кацэйка. „Палажэнне аб выбарах прыняў Сейм", — адказаў ёй старшыня Гміннай выбарчай камісіі Канстанцін Капонаў. Тэлефон у Ваяводскую камісію таксама нічога не змяніў. Параілі мне толькі заносіць прэтэнзіі да парламентарыяў, якія ўхвалілі такі недасканалы закон.

### Вынікі выбараў

У Арлянскай гміне былі чатыры выбарчыя акругі з дзевяццю ўчасткамі. Паасобныя салэцтвы былі аб'яднаны з іншымі і ў выніку некаторыя вёскі засталіся без сваіх радных: Спічкі, Кошкі, Тапчыкалы, Шарні, Чахі-Забалотныя, Алекшы, Паўлінава і Вулька-Выганоўская. У самой Орлі галасаванне праходзіла ў дзвюх акругах. У акрузе № 1 (выбарчы ўчастак № 1 — 816 выбаршчыкаў і ўчастак № 2 у Крывятычах — 176 выбаршчыкаў) на 922 упаўнаважаных да галасавання да урнаў прыйшло 724 чалавек. А 19 гадзіне прагаласавала ажно 80% упаўнаважаных. Тады не хапіла бюлетэняў для галасавання (бо прысутнасць на выбарах ацэньвалася на 80%) і трэба было давезці іх з Бельска. У Орлі ўпершыню чатырох радных выбіралі ўсе жыхары мястэчка (раней Орля была падзелена на чатыры часткі). Раднымі сталі мясцовая лекарка Аліцыя Шчэпаноўская (атрымала 131 голас), работнік ГС і радны папярэдняга склікання Аляксандр Шыманскі (145), шафёр ГС і таксама радны папярэдняга склікання Мікалай Рэнгайла (152) ды ніжэйпадпісаны (247).

**Міхал Мінцэвіч**

*Выбарчы камітэт „Незалежныя" выказвае сардэчную падзяку жыхарам Орлі за давер і падтрымку на самаўрадавых выбарах.*

*Ад імя Камітэта*
*радны Рады гміны Орля*
**Міхал Мінцэвіч**

# Перамога белліцэістаў




*Пераможцы з кубкамі бурмістра горада.*

Вучні Гайнаўскага белліцэя перамаглі ў катэгорыі сярэдніх школ у Гайнаўскіх вулічных бегах за кубак бурмістра горада, якія адбыліся 26 верасня 1998 года.

У спаборніцтвах прымала ўдзел 34 белліцэістаў. Дзяўчаты бегалі на дыстанцыі 1 200 метраў, а хлопцы — на 1 500 метраў. Перамагла сярод дзяўчат у катэгорыі сярэдніх школ Кацярына Кучко з класа I „э", на другім месцы апынулася Барбара Бірылка (II „д"), а на чацвёртым — Анна Гаўрылюк (II „д"). Сярод хлопцаў з Белліцэя найлепш пабеглі Міхал Васільчук (IV „д"), Марк Якімюк (IV „д") і Адрыян Кохман (I „а").

**(ам-з)**

# Атрасіны першакласнікаў

9 кастрычніка 1998 года адбыліся атрасіны першакласнікаў II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.

Традыцыйна ўжо арганізатарамі мерапрыемства былі другакласнікі. Падрыхтавалі яны для малодшых сяброваk і сяброў адпаведныя гульні і конкурсы. Трэба было есці спецыяльныя стравы, добра заспяваць і паказаць свае ўмеласці падчас шматлікіх спаборніцтваў. Пасля ўсе першакласнікі далі прысягу, што будуць добрымі ліцэістамі і супольна са старэйшымі сябрамі гулялі на дыскатэцы.

**(ам-з)**

# Рамонт ідзе!

**У чэрвені гэтага года адбыліся змены ў Беластоцкім драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі. Новым дырэктарам выбраны найстарэйшы акцёр тэатра Анджэй КАРОЛЯК, з якім сёння гутарыць Ада Чачуга.**



*Не люблю сядзець за пісьмовым сталом.*
Фота Ады ЧАЧУГІ

***— Як гэта сталася, Анджэй, што цябе, найстарэйшага акцёра тэатра, які тут ад 1957 года і тут жа здабыў дыплом, калектыў выбраў на пасаду дырэктара? Сёняшняе ж маладое пакаленне нераз ацэньвае вельмі сурова сваіх папярэднікаў.***

— Здаецца, людзі мне проста верылі. Верылі, што разам нам удасца вывесці тэатр з крызісу. Ну, і цяпер мая галоўная праблема: ці ў нас гэта выйдзе. У кожным выпадку **рамонт ідзе!**

***— Наогул на кіраўнічыя пасады часцей бяруць людзей звонку, здалёк. А ты ж ужо „тутэйшы", ды і нарадзіўся ў недалёкай Астрове Мазавецкай...***

— Я адчуваю сябе як найбольш „тутэйшым". А новую пасаду лічу службай, а не імкненнем да ўлады. Уладу я ахвотна аддам камусьці лепшаму.

***— Добраму акцёру, які амаль 42 гады прапрацаваў у адным тэатры і не рваўся нікуды з Беластока, мусіць падабацца атмасфера нашага горада...***

— Аднак жа ў апошнія гады нешта сапсавалася. Шмат у нас гаворыцца пра **інтэграцыю** разрозненага асяроддзя. А я не люблю гэтага слова. Найлепш, калі людзі інтэгруюцца без прымусу. Калісьці акцёр аднаго тэатра не быў ворагам акцёра другога тэатра, а ўсе акцёры не былі ворагамі журналістаў і наадварот. Сустракаліся ў клубах, дыскутавалі, спрачаліся, але былі **разам**. Успомні хаця б „Клуб сям'і", які знаходзіўся ў Доме друку на сённяшняй Суражскай. Памятаеш тыя кабарэ, у якіх бралі ўдзел не толькі сённяшнія акцёры, але і журналісты: Эдэк Рэдлінскі са сваімі тэкстамі, Збышак Насядка з гітарай... Куды падзеліся тыя клубы, тыя людзі... Вельмі мне гэтага ўсяго не хапае.

***— А як выглядае ў даны момант трупа тэатра?***

— Нам патрэбныя акцёры. Зусім няма старых акцёраў, але няма і вельмі маладых. Найбольш — у сярэднім узросце, 35-40 гадоў. А як цяпер сцягнуць новыя кадры ў Беласток, калі кватэры ў Доме акцёра распрададзены і нават няма чым заахвоціць новага працаўніка...

***— Дык, значыцца, становішча тэатра нялёгкае?***

— Страшэнна цяжкое. Мы вырашылі пачаць рамонт тэатра, хаця не маем на ўсё грошай. Калі б мы гэтага не зрабілі, то 31 кастрычніка санэпідэмстанцыя зачыніла б тэатр, а ў 2000 годзе зрабіла б гэта супрацьпажарная служба, паколькі адлегласць паміж радамі крэслаў у вялікай зале была занадта малая, дык гэта не дазваляла б весці ў тэатры далейшую дзейнасць.

***— Але гэта ж каласальная інвестыцыя!***

— Мы прадалі свой аўтобус. 150 тысяч злотых дала Ваяводская ўправа, 100 тысяч абяцала Гарадская ўправа ў Беластоку. Крыху маем заашчаджаных грошай. Ну, і шукаем спонсараў.

***— Бачу, што ўжо нешта зроблена.***

— Ужо летам былі выраўнаны сходы, папраўлена асвятленне перад уваходам у тэатр. Адноўлены два туалеты ў камернай зале (а ўсіх туалетаў ў тэатры — шаснаццаць), а таксама стылёвыя канапы — усё гэта для публікі.

Як ты сама бачыла, ідзе капітальны рамонт глядзельнай залы. На памаляванне залы, фае і выкладзіны на падлогу грошы ёсць. У даны момант патрэбны грошы на крэслы.

У былой пральні плануем зрабіць кавярню. Другую, летнюю кавярню, мяркуем адкрыць на пляцоўцы перад камернай залай.

***— Калі можна спадзявацца заканчэння рамонту?***

— У лютым плануем адкрыць адноўленую вялікую сцэну спектаклем В. Гамбровіча „Івона, бургундская прынцэса".

***— А што робяць цяпер акцёры?***

— Іграем Сафокла ў жвіроўні ў Агароднічках, на малой сцэне тэатра — „Забаву" С. Мрожка. Цяпер рыхтуем гістарычны спектакль „Перад світаннем" з нагоды 80-й гадавіны незалежнасці. Прэм'ера адбудзецца 8 лістапада.

***— Ці ты збіраешся іграць на сцэне надалей?***

— Пакуль што — не. Не буду адбіраць шанцаў іншым. Я ўжо найграўся. Дай Божа кожнаму.

***— Ці Міжнародны тыдзень тэатра будзе працягвацца?***

— Гэта мерапрыемства не здало экзамену. Трэба змяніць яго формулу. Некаторыя рэчы, паказаныя на гасцінных дошках нашага тэатра, былі вельмі слабыя.

Апрача таго, цяпер трэба думаць перш за ўсё пра рамонт. Гэта справа ў даны момант прыярытэтная. Спонсары нам цяпер патрэбныя дзеля рамонту. У кожным выпадку ў гэтым годзе Міжнародны тыдзень у нашым тэатры не адбудзецца.

***— А як будуць выглядаць кантакты з Беларуссю?***

— У гэтым годзе кантакты з Беларускім драматычным тэатрам імя Янкі Купалы, з якім мы супрацоўнічалі ў апошнія гады, не могуць быць занадта цесныя. Але ў будучыні, калі тэатр будзе адрамантаваны, гэтыя кантакты зноў наладзяцца. Беластачанам беларуская культура блізкая. Я сам іграў у „Парогу" беларускага драматурга Аляксея Дударава і нават атрымаў у Торуні ўзнагароду. Аднак жа мы спадзяваліся большага зацікаўлення спектаклямі вядучага тэатра Беларусі, калі ён прыязджаў да нас на гастролі.

***— Адным словам, усё залежыць ад таго, калі скончыцца рамонт тэатра.***

— Лягчэй зрабіць такі рамонт, чым рамонт духоўны.

***— Дзякую за размову.***

Іпаліт КРАСКОЎСКІ

# Іцка крамар

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

V

Смерць бацькі была цяжкім ударам для Іцкі. Уся сям'я засталася на ягоным утрыманні. Цяпер ён зноў вымушаны быў стаць крамаром. Ажаніўся, але разам з тым яму стала яшчэ цяжэй: кожны год на свет Божы сталі з'яўляцца Іцкавічы. Сям'я ўсё павялічвалася.

— Ох, ох, — уздыхаў Іцка, пакідаючы мястэчка пасля шабасу дзеля тыднёвага падарожжа. — Вартавала б у новыя месцы пайсці, трэба было б глыбей у пушчу пранікнуць, адкуль стральцы рэдка бываюць у горадзе. Там зарабіць будзе лягчэй, там не скупяцца на грош.

Але на згадку пра пушчу міжвольная дрыготка праймала беднага крамара. „Ух! Там аграмадны лес, — думалася яму. — Ад жытла да жытла вёрст па дзесяць даводзіцца ісці і то ўсё лесам. А дарогі ў лесе блытаныя. Ах, як лёгка ў лесе збіцца з добрай дарогі. Забрыдзеш ў нейкую нетру, у багну, натрапіш на ваўкоў... Ой, ой! Няхай яны сядзяць сабе ў лесе... Не, лепш ужо па старых мясцінах прайсці, па знаёмых".

Іцка зноў ішоў даўно пратаптаным шляхам. Заробак яго не павялічваўся, а патрэбы сям'і ўсё раслі. А тут яшчэ мокры год выпаў... Цяжка было крамару. Ужо другі месяц безупынна ліе дождж. Зрэдку толькі вызірае сонейка, гадзіну, другую ўсё весела любуецца ім, не нацешыцца, але зноў шэрыя хмаркі імчацца па небе, зноў палоняць і хаваюць сонейка, зноў паліваюць зямлю дажджом ды такім дробным, восеньскім, праймаючым да касцей. Маркотныя, сумныя вобразы. Збожжа пачарнела на палях, бульба ўжо даўно згніла, яе, пэўна, так і давядзецца пакінуць у зямлі. На сенажацях скошаная трава ляжыць у пакосах, а праз іх прабіваецца ўжо новая траўка... І ў лесе пахмурна, вільготна, пахне грыбамі. Нягледзячы на дождж шмат жанчын у лесе збірае грыбы, на зіму сушыць... „Добра ім, — думаецца крамару, наслухваючы як у лесе сялянкі перакліваюцца. — Назбіраюць грыбоў, насоляць, усю зіму есці будуць, а нам нельга... А назбіраў бы ж грыбоў, навaрыў бы сабе супу ў карчме, але ж закон не дазваляе, у грыбах чэрві трапляюцца, грыбы нячыстыя".

Мочыць крамара дожджыкам, мочыць, халодным ветрам праймае. Увесь прамерзне ён, пакуль ад карчмы да карчмы прабярэцца і пачне ў ёй сушыцца. Прыстане крамар, есці яму хочацца, а і кілішак гарэлкі з холаду ды з даждж... „Ох! Нельга!" — вырашае ён, бо заробак нікудышні. Купляе сабе булачку і кавалачак селядца — усяго на тры капейкі. Перакусіць, вадой зап'е. Такі ў яго ўвесь полудзень. А часам селядзец і булка — гэта раскоша, бо за дзень зарабіў усяго некалькі грошаў і амаль нічога не застаецца на ўтрыманне сям'і. Вымае тады з-за плячэй мяшочак з тыднёвым запасам кашэрнага, яўрэямі спечанага хлеба, развязва мяшочак, адрэжа кашэрным нажом кавалачак гэтага хлеба, ачысціць цыбуліну, абмакне яе ў соль, павячэрае, зап'е вадою, памоліцца, прыкладзе галаву на сваю каробку і засне. А на світанку зноў у дарогу.

Аднак дрэнна, дрэнна ідзе гандаль. Каму ж ахвота траціць грошы на стужкі, на французскія чырвоныя хусткі, на залацістыя каралі, калі можа стацца, што ўсё збожжа на полі застанецца і ўжо з восені давядзецца галадаць? От, часам якая-небудзь кабеціна ў вёсцы іголак купіць, і тая стараецца, каб грашамі не плаціць, а каб памяняць у крамара на пару яек ці жменьку, другую фасолі.

Іцка рашыў перамагчы ў сабе страх перад вялікім лесам і пайсці ў пушчу, да стральцоў.

*(працяг будзе)*

**Пераклад з рускай Міколы ГАЙДУКА**

# Крэпасць Беларусь

[1 ☞ *працяг*]

мову — тую, якой валодаў Пётр Міронавіч Машэраў. Добразычлівая пажылая спадарыня паказвае партрэт Леніна, які вісеў у кабінеце Машэрава, крэсла і пісьмовы стол, за якім сядзеў паважаны людам І сакратар партыі. Паказвае таксама штаны, якія насіў Пётр Міронавіч, дакументы, якія падпісваў. Музей Машэрава — гэта святыня, прысвечаная яго памяці, са жрыцамі — вернымі ахоўніцамі яго культу.

Ідучы па вуліцах Брэста маем нагоду пахваліць улады краіны і горада за чысціню, падмеценыя вуліцы, адноўленыя тынкі камяніцаў. Калі б натура не прымушала завітаць у бар, рэстаран ці туалет, горад гэты пакінуў бы цалкам добрае ўражанне. Найгорш з'есці абед, калі ў бары зусім няма нажоў, а відэльцы бываюць у абмежаванай колькасці. Катлету трэба тады есці лыжкай або чакаць, пакуль нехта з наведвальнікаў верне відэлец. Амаль кожны бар, кожны рэстаран, крама, туалет — гэта сацыялістычная крэпасць, аб якой гаварыў прэзідэнт Лукашэнка. Была яна выдатна ўзмоцнена ў час Пятра Машэрава, і нішто не паказвае хуткай яе капітуляцыі.

У Брэсце ў палове кастрычніка афіцыйны банкаўскі курс долара трымаўся на ўзроўні 53 тысяч беларускіх рублёў. У пунктах абмену валюты плацілі за долара 76 тысяч, але ніхто і ніхто іх не прадаваў. Зразумела, што канторы толькі скупляюць. У неафіцыйным, забароненым гандлі валютай, за аднаго долара плацяць 130-150 тысяч. І гэта, праўдападобна, адпостроўвае рэальную вартасць беларускай валюты. Сярэдняя заработная плата ў Беларусі складае каля 4,5 мільёна беларускіх рублёў (30 долараў), найніжэйшая — 450 тыс. (3 дол.). Цэны мясных і малочных прадуктаў у крамах цалкам аднак капіталістычныя. Адна толькі гарэлка такая танная, што аж узнікае пытанне, ці не з'яўляецца яна прадуктам, які карыстаецца датацыямі з дзяржаўнага бюджэту. За долара (паводле курсу на чорным рынку) можна купіць 1,5 літра таннай гарэлкі. Стала яна таннейшай ад імпартнай мінеральнай вады.

Беларускую эканоміку немагчыма зразумець, не ведаючы яе кулісаў. Так як існуюць розныя цэны на замежную валюту, таксама існуюць розныя прасторы, у якіх адбываецца абмен тавараў, паслуг і думкі. Унутры крэпасці Беларусь пра палітыку гаворыцца выключна шэптам. Голасна дзякуецца толькі ўладам за разумную гаспадарку, заклапочанасць лёсам пенсіянераў.

Дарма ў Брэсце чакаць, што нехта адкажа табе на беларускай мове. У Мінску здараюцца такія інцыдэнты. Некаторыя прыкідваюцца нават, што не разумеюць адпае з дзяржаўных моў. А можа сапраўды — не разумеюць?

**Яўген МІРАНОВІЧ**

# Літаратурная старонка (466)

Міхась Андрасюк

## Вуліца Добрай Надзеі

**1. Генезіс**

Ёсць у гарадах вуліцы ахвяраваныя Дзяржынскім і Антыдзяржынскім, ёсць вуліцы імператарам і камісарам, магнатам і пралетарыям. Ёсць вуліцы мучанікаў гісторыі і яе блазнаў.

Лёс такіх вуліц.на добрае і благое сплятаецца з ідэалагічнымі шляхамі вашай дзяржавы. Бо дзяржавам здараецца звярнуць направа або налева, наперад рухацца або назад, а вуліцы абавязаны загадзя прадбачыць усе нечаканыя эвалюцыі і рэвалюцыі ды паспяхова справіцца з актуальнымі патрабаваннямі гісторыі.

Наша вуліца жыве сваім жыццём. Ні ідэалагічныя хістанні, ні палітычныя катаклізмы не прымушаюць яе, каб мяняць імя ці пераадзявацца ў чужыя транты. Вуліца Добрай Надзеі — так было заўжды, так ёсць і сёння.

Калі ў хаатычнай вандроўцы цераз свет і жыццё давядзецца вам зачапіцца і за наш парог, не здзіўляйцеся, адкуль такая арыгінальная, амаль паэтычная назва. Паэтаў у нас шмат, можна нават сказаць, што мы проста не людзі, а чыстая, жывая паэзія. Значыць — не здзіўляйцеся. Пытайце. І калі лёс паставіць на вашай сцежцы цётку Варвару, усім праведнікам праведніка, значыць — вы шчаслівыя людзі. Вышэйшая сіла пасяліла цётку Варвару на самым пачатку нашай вуліцы, загадала вартаваць гадзін у дзень прынамсі восем, з падбародкам на штыкецінах фортачкі, ды ніколі не кіравацца прынцыпам „мая хата з краю”. Нават калі б тая хата была і сапраўды самай крайняй.

Людзі ў горадзе нічога наогул пра сябе не ведаюць. Спытайце вось першага напатканага чалавека, кудою дабрацца на базар, на вакзал ці ў другое любое месца і чалавек гэты, выпадковы зусім і чужы, набок адставіць прыватныя клопаты, дэталёва растлумачыць усе магчымыя падыходы, а мабыць, калі адыдзеце, адчакае хвіліну, наглядаючы над правільным развіццём вашага маршруту.

А спытайце: Як пажывае Косця, нямалодшы Пракопаў сын? Як шанцуе Юрачку Басэвічу? А Дзянісавіч Славік, як сябе паводзіць? Пакінуў, у рэшце рэшт, шлюбную Аньцю ды перабраўся да якое-небудзь са шматлікіх сваіх палюбоўніц?

Спытаеце, а чужы чалавек паглядзіць на вас бы на незямное дзіва і нічога не скажа, або — што таксама ж праўдападобнае — якімсьці брыдкім словам, нецэнзурным зусім, апраўдаецца за сваю некампетэнтнасць у міжчалавечых справах. Мала пра сябе ведаюць жыхары горада!..

Вось і прыдумаў Усявышні цётку Варвару, каб дашчэнту не парваліся сувязі між людзьмі. Пад беленькай хустачкай памяшчаецца архіў куды больш камплектны за інфармацыйныя рэсурсы мясцовых органаў і, што таксама важнае — даступны так у будзённыя, як і выхадныя дні. Мабыць, стрэнеце на сваёй сцежцы белую хустачку і вочы выцвілыя ў пагодны блакіт, аплеценыя сетачкай шматгадовай павуціны. Не мінайце абыякава гэтых вачэй. Адкрыйце ім сваю душу, раскажыце бяду сваю, а яны — як кажа паэт — і бяду ўракуць, і душу злагодзяць.

— Заўтра будзе лепей, — суцешыць цётка Варвара. — Вось нават і Славік палюбоўніцу кінуў, час у хаце бавіць. А Юрачка не п’е месяцаў тры. Карпаваму Мікалаю сын нарадзіўся. Чатыры дочкі, а цяпер, вось, бачыце — сын. Вялікая справа — надзея.

І так гэта з надзеі на лепшую будучыню нарадзілася наша вуліца. І з пагоні за прыгажэйшым жыццём, і са спадзяванняў на белы хлеб у белых далонях, і з пачутых у дзяцінстве казак пра мужыка, які, царом стаўшы, валодаў светам доўга ды справядліва.

Дзякуючы надзеі разрастаецца ўсё яшчэ і павалічваецца наша вуліца, а чарговыя ўцекачы з прыпушчанскай Безнадзеі тут якраз знаходзяць сваю прыстань.

*(працяг будзе)*



*Маё сусвету заклінанне... — Міхась Андрасюк у Белавежы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

На абмежку

## Крылатыя словы Барскага

Яны нарадзіліся ў благаслаўлёны час нашага літаратурнага *Big Banga*, калі для паэтаў „Руні” вясковыя асілкі знімалі дзверы з клуні, а бельскія ліцэістачкі прысвячалі Барскаму свае першыя лірычныя радкі.

І паэт не застаецца ў даўгу. Пад шквал авацый, укантэнтаваны прызнаннем удзячнай публікі, спускаецца з узнёслай гарызанталі прыгуменных дзвярэй на грэшную зямлю, з бязлікага натоўпу выбірае спелую папялушку, сэрцаедным зрокам высвятляе стан ейнага нутра і, адчуўшы асалоду ад душэўных пакут ахвяры, абрынае на яе ўсю сілу свайго таленту:

— Я вас кахаю! — лашчыцца.

Тут, не спускаючы з папялушкі намагнічанага эротыкай позірку, робіць спазматычны перадых і, надаўшы голасу глыбока асабістага зместу, б’е ва ўпор:

— А вы мяне?..

І здзяйсняецца цуд. У адно імгненне сціплая папялушка ператвараецца ў каралеўну, прыкметна прыгажэе, млее ад шчасця і палкімі вачыма адказвае:

— Я твая, князь!

Візітныя словы паэта — як лагічнае спараджэнне разбуджанага Пачыну — ускрыліліся, набылі вартасці дэвіза, сталі праграмнай ідэяй, і вабная палова абарыгеннай нацыі лягла вакол ног будзіцеля.

І плыў паэт ад сэрца да сэрца. Пройдзены шлях значылі засохлыя купіны пераспелых рабынь разбуранай ушчэнт казкі і ўмольныя вочы недаспелак. Але хоць у гэтай сферы Барскі быў непахісным аўтарытэтам, сеяў толькі трывогу сярод эліты мясцовых Казановічаў, не гаворачы пра паспалітых Казанюкоў. Ніхто не адважыўся пераймаць вопыт майстра. Такое нават у гарачых снах нікому не прыходзіла. Барскі не падлягаў штампаванню, ляпіла яго неба экспромтам, у разгары херувімскай сябрыны. Дэміург, кульнуўшы добрую чарку, змяшаў зямную гліну з нябеснай. Таму і стаў Барскі непераймальны. А той, хто пасягае на боскае, выстаўляе сябе на смех, як Міхась Хмялеўскі пад Цілічанкай.

Было так. Стаяла пагоднае лета і мы, Уладзімір Паўлючук, Сакрат Яновіч, Міхась Хмялеўскі і я, гнаныя прагай вывучэння роднага краю, выбраліся ў Кнышынскую пушчу. Пакуль ішлі цёмным лесам, ні кудлатага лесуна, ні гарбатай ведзьмы не спаткалі. А пад Цілічанкай залаты бор. І між гонкіх соснаў набрынялая маладымі сокамі папялушка!

Абступілі скараспелку. Пачалі абхаджваць. Валодзя, які выношваў канцэпцыю псіхалогіі белвытоцкага тубыльца, бае пра ідылію лясного жыцця. Заўсёды поўны ідэй Сакрат выпытвае, які асартымент рыб водзіцца ў глеістым раўчаку, што чарнее непадалёку. Я прымаю паставу таямнічага маўчуна (не знаходжу талковай тэмы). А Міхась — ні з таго, ні з сяго — сячэ Барскім. З ходу карцела вылучыцца ў князі? Баяўся каб мы не апярэдзілі? Наспех развучаная роля прывяла да адваротнага ператварэння намеру ў скутак. Выйшла, як на аматарскай сцэне. Ад хвалявання ніўскі казанова страціў прыпісаны герою голас і выдаў рык згаладнелага бугая. Агаломшаная маладка спярша налілася сарамлівай чырванню, затым у вачах яе ўспыхнула поўнае недаўменне, быццам убачыла сексуальнага вампіра.

— А Божачка! — ахнула, млеючы ад жаху.

І Міхась, згараючы ад канфузу, папёр у лес. Толькі рэха рагатнула ўдагонку:

— Здурэў дзядзька!

Пераймаць Барскага? Лягчэй праз зямлю праваліцца. Застогнеш ад душэўнага болю і яхіднага рогату кплівых хаўруснікаў. І станеш блазнам.

Банальная ісціна, банальны хэпіэнд.

Георгій Валкавыцкі

Барыс Руско

### Між комінамі

Чаму ў гэтым месцы  
столькі суму —  
вочы,  
як макавае зерне,  
згубіліся ў атрутным  
пустазеллі.  
А на карцінах  
высахлыя твары,  
сухотныя думкі  
блукаюць у рамках,  
плывуць ракою  
ўверх брухам рыбы,  
на небе не аблокі —  
турэмная крата  
лунае ў клубах дыму.  
А варвар добры —  
расці дазволіў  
плакучай іве.

Міра Лукша

* * *

у нас з табою ўсё незакончана размова  
чаму ты ў сне хочаш быць жанчынай  
а я пішу як ён ну сніцца ж такое

і сніцца мне спаглядаючы з пятлі  
Рафал Ваячак а мне здаецца што мне мулка ў шыю  
і не ведаю ці смяюся ці плачу ў хвіліне апошняй

або плыву для жарту ў нябыт  
а мае браты крычаць на беразе  
не жартуй не адплывай для нас Эд! Эд! Стахура!

і сніцца мне як з Алегам Мацієвічам  
кленчым пад крыжыкам Мікалая Рубцова  
і льем рускую гарэлку ў рускі пясок  
і плачам па-беларуску

а яшчэ мне сніцца Толік Сыс  
а ён дрыжачай далонню падымае шклянку  
і п’е праз сілу рытуальны тост  
за мой прыход у яго балючы дом

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Папраўка

У „Зорцы" н-р 42 мы надрукавалі няправільна загаловак новага зборніка Віктара Шведа — „Вершы для Натальлі". Зборнік азагалоўлены **„Вершы Натальцы".**

У аўтара і чытачоў просім прабачэння.

**Зорка**

# Любім нашу школу




*IV і V класы ПШ у Новакорніне з настаўніцай беларускай мовы Нінай Куптэль.*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Дарагая „Зорка"!

Пішуць Табе вучні V класа Пачатковай школы ў Новакорніне. На ўроку беларускай мовы мы вучыліся пісаць ліст. Адрасатам нашага ліста мы рашылі выбраць Цябе, „Зорка". Хочам расказаць пра нашу школу.

Да нас у школу даязджаюць вучні з многіх вёсак: Барка, Дубіч Асочных, Ягаднікаў, Хітрай, Новаберазова, Чыжыкаў, Трывежы, Катоўкі, Васількова. Прывозіць нас гарадскі аўтобус.

У нашай школе звыш 120 вучняў. Займаемся ў класах 0-VIII. У нас ёсць прадметныя кабінеты, бібліятэка, камп'ютэрная зала, працуе школьная сталовая. Ёсць таксама гімнастычная зала, дзе праводзяцца заняткі па фізкультуры. Будынак нашай школы новы, двухпавярховы. У школе чыста і прыгожа. Каля школы расце многа дрэў, ёсць агародчык, а таксама спартыўная пляцоўка.

Мы вельмі любім хадзіць у нашу школу. Ахвотна прачытаем лісты пра іншыя школы і справы вучняў.

Да пабачэння! Шлем правітанні!

**Ад рэдакцыі**: Сардэчна дзякуем за прыгожы і змястоўны ліст, з якога сапраўды многа можна даведацца пра вашу школу.

**Зорка**

Паляміка

# Між намі маладымі

З цікавасцю прачытаў я артыкул свайго малодшага сябра з бельскай „тройкі" Міхася Сцепанюка. Ужо загаловак артыкула („Рэзюме кніжак") трапна акрэслівае, што аўтар вельмі цікавую тэму бярэ ў свае рукі. З Міхасём я магу згадзіцца, але і не. Карыстанне з рэзюме адымае чытачу многа вартасных валёраў, якія нічым не заступіць кніжкі. Рэзюме можна параўнаць да вопраткі чалавека, якая паводле польскай прыказкі *nie zdobi człowieka, lecz człowiek ją zdobi*. Затое чалавек гэта кніжка. Вядома, што чалавек мае больш „плюсаў" чымсьці самая лепшая вопратка. І з гэтым я са сваім сябрам згаджуся. Не згаджуся толькі з тым, што вучань не павінен увогуле карыстацъ з рэзюме. Можа тут чытачы падумаюць, што я не чытаю кніжак. Не, я стараюся чытаць кніжак як найбольш, але ў тым справа, што прачытаўшы кніжку мы маем „заблытаны" клубок думак і каб яго ўпарадкаваць нават настаўнікі-гуманісты падказваюць вучням, каб карысталі з рэзюме. Таксама не згаджуся, што рэзюме гэта выдумка нашых часоў. Ужо нашы старэйшыя браты і сёстры карысталіся імі. Я ведаю такога сябру, які паказваў рэзюме (увага!) нават з 1968 года! І яшчэ вельмі важная рэч: той, хто карыстае толькі з рэзюме, хай глядзіць, бо можа не здаць экзамен на атэстат сталасці!

Апошнім часам сярод вясковай моладзі (на Беласточчыне) вялікай папулярнасцю цешацца прывожаныя ўсходнімі суседзямі касеты Made in Ukraine. На пяцёх касетах (на якіх знаходзяцца выключна ўкраінскія песні) ёсць знаёмыя аранжацыі з амерыканскіх, нямецкіх, шведскіх гуртоў techno. Не толькі тое разіць слых таго, хто слухае гэтую касету, але і не маючыя ніякага сэнсу каментарыі на пачатку песень. Касеты разыходзяцца сярод моладзі, як „свежыя булачкі" (10 штук на дзень). Ці не лепш замест іх купіць запіс нашых „Аса", „Прымакоў", „Чарамшыны" або „Маланкі"?

**Юрка Явер**

## Ліса прыгажуня

Маладзенькая ліса
Сабіраецца стала ў госці.
Не ліса — а краса,
Залаценькі хвосцік.

Завушніцы начапіла.
А караляў — не знайшла.

Стала лісіцы ўсё няміла,
Слёзкі горка разліла.

Ды з кустоў на ліскі тварык
Паглядзеў жаніх-камарык:
— Плачаш, ліска, ты дарма,
Прыгажэй цябе няма.

**Віктар Шніп**

# Польска-беларуская крыжаванка № 44

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▶ | | | Past-wisko | Koza | Halo | Dziwak | ▼ | Oblę-żenie |
| Sęk / Kruk | Klasa | Ława | ▼ | Saga | ▶ | ▼ | | ▼ |
| Propo-zycja | ▼ ▶ | ▼ | | ▼ | Lis | ▶ | | |
| ▶ | | | | | | | | |
| Uwaga | ▶ | | | | | 📖 | | |
| Warkocz | ▶ | | | | Jukka | ▶ | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 40:** Хам, мэта, этап, тэма, раса, эра, манах, трэн, ода, грэх, клан. Мэтр, тэатр, хан, арэх, эра, этанол, асада, пахан.

Узнагароды, **набор каляровых аўтаручак (cienkopisów)** выйгралі: **Марта Карчэўская, Юліта Гайко і Павел Сушч** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Узнагароды можна ўзяць у „Ніве" або чакаць іх у сваёй школе.

## Загадкі

**Міхась Скобла**

Сагрэты цёплым і ласкавым сонейкам,
раскрыліўся маленькім парасонікам.

Заблытаўся ля елкі ў павуціннне,
хавае сарамліва рабаціннне.

Кранеш — паваліцца у мох, умора.
Напэўна вы пазналі...

(мухамора)

* * *

Сядзіць на гарышчы пры дзённым святле.
А поначы лётае ў лес на мятле,
дзе хатка яе на курынай назе
дзвярыма бяззубымі знічкі грызе.

Хто гэта, скажыце?
Не чую я, га?
Яшчэ паўтарыце, што?..

(Баба яга)

* * *

Зранку выпіўшы нашча расы,
падцягнулі браты паясы.
Гаспадар іх не корміць скупы,
аж пападалі ў полі...

(снапы)

Антаніна Хатэнка

# Дзяды

У ночку цёмную ціхую зляцела зорка з нябёсаў. І растала. Чалавек на зямлі памёр. Птахам трапяткім душа яго ўзнялася над светам. Заплакала радзіна і запаліла агеньчыкі памінальныя — яскаркі той зоркі-знічкі, што згасла прадвесніцаю смерці людской. І вырас на планеце першы грудок жалобны — магілка самотная. І вымкнулі над пагоркам-помнікам травы густыя і дрэвы гаманкія, да якіх злятаюцца лёгкія птушкі. Кажуць спрадвеку, што душа гэта вяртаецца да кутка, дзе спіць чалавечае цела. Кажуць, памяць тут жывая гняздуе: як прыслухаешся да шэпту лістоты — гісторыю роду пачуеш. Кажуць, знічка вандруе між зямлёй і небам, нібы птахам-душам шлях паказвае, калі паміраюць і нараджаюцца людзі.

З той далёкай ночкі, калі зорка ўпершыню знікла і птушкі панеслі першую душу ў сусвет, людзі пачалі сустрэчы ладзіць са сваімі нябожчыкамі — родзічамі ды сябрамі. На радзіме нашай гэтыя сустрэчы і ўвесну, і ўлетку, і ўзімку, і ўвосень бываюць. Дзядамі гэтыя дні памяці завуць, бо ўсе нябожчыкі таксама маюць найменне Дзядоў. Можа, таму, што яны мудрэйшыя за жывых на той дарозе сусветнай. А можа, таму, што раней яны тут жылі, чымся мы, старэйшыя за нас.

Так, яны мудрыя і памятлівыя, Дзяды святыя. Прылятаюць дахаты заўжды, калі паклічуць іх сваякі і сустракаюць нас на могілках, калі мы гасцюем у памяці зямной.

Слухайма іхнюю гаворку ціхуткую. Восень лісцем не шапатне. Сонца ў сон пакацілася. Дзяды Змітраўскія настаюць. Памінанне пачынаецца. З раніцы маціааладак напякла і ўсім за сталом раздала. Бацька Дзядоў паклікаў частавацца і малітву задумана прамовіў. З покуці абразы пазіраюць урачыста. Хата-святліца прыбрана чыста. Белыя фіранкі на воках. Белы абрус на стале. У бялюткіх кашулях радзіна. Звечара ў лазні памыліся ўсе — і дзятва, і старыя. І пагукалі Дзядоў таксама папарыцца ўслодыч. Гэтак адвеку рабілі. І памяць не згасла.

Сёння Дзяды. На акне прывітальна белы ручнік расхінула маці. Быццам дарогу дамоў для Дзядоў разаслала. Конаўку побач з вадзіцай паставіла — рукі памыць, мыла кавалак пахуткі паклала. Прыходзьце, ляціце! Насцеж і дзверы, і вокны расчынены — душам насустрач. Розных прысмакаў на стале багата. І каўбаса, і вяндлінка, і рыба, і верашчака з бліндамі.

Але вячэру дзядоўскую з куцці пачынаюць. Кожнаму трэба куцці зачарпнуць на памін свайго роду, што караніўся і жыў на зямельцы сумленна. Тут і Дзяды прычасцяцца да страў сямейных. Посуд паставілі ім — як гасцям найпачэсным.

Ціша над светам. Дзяды прыляцелі, як зоркі, селі за стол і чакаюць вячэры. Мы іх не бачым. Ды адчуваем: тут яны, побач, за нашым сталом. Свечку запальвае бацька. Дзядоў запрашае разам з радзінаю зладзіць спатканне-ўспамінне.

Потым ужо распачнецца гамонка-бяседа. Будуць узгадваць продкаў сваіх — і нядаўніх, і дужа далёкіх. І галасы ўваскрэснуць. І вочы здалёку ўглядзяцца ў нашы дні з прыхаванай журбою.

І толькі расстанне падступіць і страпянецца, як сэрца, стамлёная свечка — птахамі душы над хатай пакружаць, пакружаць і паляцяць туды, дзе ўспыхваюць зоркі. Маці вады зачарпне малітоўна ў кубак, хлеб на ручнік пакладзе беражліва. Выйдзе ўслед за Дзядамі і сумна прамовіць: „З Богам ідзіце, Дзяды! Да наступнай сустрэчы”. Перажагнаецца тройчы і ў небе таемным зорку журботную знойдзе вачыма. Быццам папросіць у Бога памяці вечнай, жыцця на зямлі і спагады.

Зоркі маргнуць. Зашчабеча світальная птушка. Будзе зямелька спакойна дзяцей сваіх гушкаць.



Мал. Пятра і Тамаша ДЗЕМЯНЮКОЎ з Падрэчан

Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага

# Яйка ад Куры Шчабятуры

Брыдуць па дарозе паны Кубліцкі ды Заблоцкі. Маркотна ў іх на душы, бо ў жыватах пуста, як на таку. Сустракаецца ім Кура Шчабятура, вялікая пярэстая птушка.

— Чаго паны занудзіліся? — пытаецца. — Мо паны галодныя?

— Табе што за справа? — ганарліва мовіць пан Заблоцкі. — Мне нічога, — кажа Кура, — але як паны хочуць есці, дык я знясу ім яйка...

— Што нам за наедак з твайго яйка, калі мы з панам Кубліцкім глытаем іх адразу цэлае рэшата, — пагардліва кажа пан Заблоцкі.

— Вось каб з яйка ды вывелася куранятка, — уторквае свае два шэлегі пан Кубліцкі.

— А што? Можна, каб вывелася. Бо я птушка заморская, яйкі не абыякія нясу, — кажа Кура Шчабятура.

— А ў кураняці будуць усяго дзве ножкі? — трывожыцца пан Кубліцкі. — А ці можна, пані Кура, каб адразу чатыры нагі?

— Сорак, сорак, — сіпіць пан Заблоцкі. — Падавай нам кураня-саракаsuccessнажку.

— Можна і гэта, — згаджаецца Кура.

Але пану Заблоцкаму ніяк не ўлад зіш.

— Каб і сала было на ім у даланю таўшчынёй! А ростам каб было з быка! Во!

— Добра, панове, — кажа Шчабятура. — Толькі я такую гаргару не бяруся наседжваць. Ужо самі, панове, як-небудзь старайцеся.

— Гэта не курыная справа, — фанабэрыцца пан Заблоцкі. — Было б яйка, а мы ўжо памяркуем самі, што з ім рабіць.

Аграмаднае было гэтае яйка, далібог, са стог вышынёю. Хапіла клопату панам, пакуль па чарзе наседжвалі яго сваімі шырокімі азадкамі. Але вось у яйку нешта грукоча, нешта стукоча, як у малатарні, асыпаецца шалупінне — і перад панамі з'яўляецца куранятка. Няможна апісаць, што гэта быў за страхапуд. Гара гарою, нападзе бычыныя рогі і свінячы лыч, назаду хвост, як у пеўня. Яно рохкае немым голасам, тады лопае скрыдламі — і паны валяцца на зямлю як падкошаныя. А пачвара з жудасным рохканнем прастуе на сарака лапах да лесу, ажно зямля за ёю курыцца.

З тае пары за рэчкай Парэчкай у пракаветнай пушчы завёўся страшэнны звер. Днём ён хаваецца ў нетрах, а ўвечары падкрадаецца да чалавечага жытла, душыць сабак, свіней, кароў. А як у небе поўня, дык рохкае на ўсю ваколіцу, і ад таго рохкання ў людзей валасы шапку падымаюць.

Ну й пачвары ж вырастаюць ад чалавечае зайздрасці ды прагавітасці. Тфу!

**Пятро Васючэнка**



*Дзяўчаткі з V „ц” — новыя „Жуpaвінкі” з бельскай „тройкі”.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Адам Станкевіч

Адам Станкевіч быў каталіцкім святаром, адным з тых ксяндзоў, якія трывалі ў вернасці для свайго народа. Нарадзіўся ён у 1891 г. у Арлянятах, што на Ашмяншчыне. Вучыўся ў каталіцкай семінарыі ў Вільні, а пасля ў Духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. У 1917 г. стаў адным з заснавальнікаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і выдаўцом часопіса на беларускай мове „Хрысціянская думка”. Прымаў удзел у падзеях, якія прывялі да абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

У 1922 г. быў абраны паслом у польскі Сейм, дзе стварыў клуб Беларускага сялянскага саюза. У 1924-1926 гадах быў старшынёй Таварыства беларускай школы, а пасля Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Антыбеларуская палітыка польскіх улад спрыяла ўзнікненню структур беларускага камуністычнага і антыдзяржаўнага руху. Ксёндз Адам Станкевіч лічыў, што для будучыні беларусаў найважнейшае ёсць захаванне нацыянальнай свядомасці, а дзеля гэтага патрэбна была перш за ўсё адукацыйная і гаспадарчая актыўнасць.

Адам Станкевіч быў аўтарам некалькіх прац па гісторыі беларусаў — *Кастусь Каліноўскі, Родная мова ў святынях, Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення, Хрысціянства і беларускі народ.*

У 1939 г., калі бальшавікі занялі Вільню, Адам Станкевіч эміграваў у Літву, дзе сарганізаваў Беларускі нацыянальны цэнтр і прадаўжаў выдаваць часопіс „Крыніца”. У 1944 г. быў арыштаваны бальшавікамі, якія абвінавацілі яго ў прапагандаванні беларускага нацыяналізму, а ў 1949 г. асудзілі на 25 гадоў пабыўкі ў сібірскіх канцлагерах. У гэтым жа годзе Адам Станкевіч памёр.

# Мастацкія сустрэчы



*Віктар Кабац на занятках з гайнаўскай моладдзю.*

— Пасля летняга перапынку пачынаюць ужо працу мастацкія гурткі „Дэфармацыя", у якіх займаюцца вучні падставовых школ і хочам надалей арганізаваць адкрытыя сустрэчы для старэйшай моладзі, на якія запрашаем вядомых нашых мастакоў, — гаворыць Зінаіда Якуць, апякун мастацкіх спатканняў і працаўнік Гайнаўскага дома культуры.

У ГДК можна пабачыць выстаўку „Сустрэча з вясёлкай", на якую працы рыхтавалі вучні яшчэ ў мінулым школьным годзе. Найбольш тут прац звязаных з натурай — птушкі, жывёла, краявіды, але ёсць і матывы з жыцця ды нацюрморт.

— Падчас працы выкарыстоўваліся розныя мастацкія тэхнікі, розныя фарбы, вугаль, аловак, а таксама малявалі і на шкле, — кажа Зінаіда Якуць. — Сустрэча з вясёлкай, гэта не толькі розныя тэхнікі, але і амаль усе магчымыя колеры, так, як у вясёлцы.

У Гайнаўскім доме культуры сустракаюцца дзве групы вучняў падставовых школ: малодшая — з класаў I-IV і старэйшая — з класаў V-VIII.

— Я на кожнага вучня гляджу індывідуальна, патрабую, каб кожнае дзіцця выконвала працы на высокім мастацкім узроўні, але хачу, каб умела перадаць уласныя адчуванні. Хачу, каб кожная дзіця, якое прыходзіць да нас было задаволенае. Калі раблю выстаўкі, раблю іх большымі, каб працы кожнага вучня можна было паказаць. Найважнейшая справа, каб працы падабаліся дзецям, — расказвае спадарыня Якуць. — Памяшканне ў нас невялікае і калі прыйдзе больш асоб, працуем у вялікай зале, на сцэне або, калі пагода, ідзем на прыроду. Некаторыя працы высылаем на выстаўкі. У снежні 1997 года Уршуля Якуць атрымала вылучэнне на Агульнапольскім мастацкім конкурсе „Святочная калядная паштоўка". Вучні прымалі ўдзел таксама і ў Агульнапольскім конкурсе ў Торуні. Ёсць і вучні вельмі здольныя, напрыклад, Аня Саевіч, Эмілія Васюк, Марта Данілюк, Дамініка Даўнаровіч. Сярод малодшых вучняў відаць ужо талент у Іаанны Мак і Ендруся Кравіранды.

Ужо 2 гады ў ГДК арганізаваны адкрытыя сустрэчы, на якія прыходзіць у галоўным моладзь сярэдніх школ і запрошаныя мастакі.

— У час спатканняў перад усім вучымся маляваць. Жывапісцы падказваюць, папраўляюць і заахвочваюць, — гаворыць мая субяседніца. — На сустрэчы прыходзілі і Віктар Кабац, і Збігнеў Будзыньскі, і Яўген Давідзюк.

— У час сустрэчы малявалі мы на мокра дрэва, карыстаючыся тушшу. Кожны маляваў так, як сабе ўяўляе, — успамінае мастак Віктар Кабац. — Відаць было і таленавітую моладзь, але і былі асобы, якія прыйшлі сюды выпадкова.

— У гэтым годзе плануем больш працаваць з натурай, навакольнай прыродай. Першая выстаўка прысвечана будзе восені, — паведамляе спадарыня Якуць. — Усіх ахвотных запрашаем на сустрэчы ў гуртках, заняткі ў якіх адбывацца будуць па суботах у Гайнаўскім доме культуры. Старэйшыя вучні спатыкацца будуць ад 10 да 12 , а малодшыя ад 12 да 14. Надалей плануем таксама і сустрэчы з мастакамі.

**Аляксей Мароз**

# Новы белавежскі часопіс

„Czas Białowieży" — гэтак называецца новая газета, якую ў пачатку кастрычніка г.г. пачало выдаваць нядаўна заснаванае групай белавежцаў Таварыства мясцовых ініцыятыў. Газета дэкларуе незалежнасць, а ў ніякім выпадку не намерваецца прэзентаваць афіцыйнае становішча Таварыства. У падзагалоўку рэкамендуе сябе як двухтыднёвік мясцовай грамадскасці.

Пакуль што выйшаў пробны нумар з датай 9 кастрычніка 1998 г. У ім найбольш месца адведзена самаўрадавым выбарам. На тэму самакіравання выказваюцца пяцёра жыхароў Белавежы. Ёсць і кароткае інтэрв'ю з Кшыштафам Вольфрамам, у якім той адносіцца да некаторых мясцовых праблем. Раскрываюцца таксама засакрэчаныя перад шырэйшым колам жыхароў рашэнні апошніх сесій Рады гміны папярэдняга склікання. Далей чытач знойдзе ўспамін пра памерлага ў чэрвені г.г. былога настаяцеля Белавежскага прыхода а. Клаўдзія Пушкарскага, рэцэнзію на кніжку а. Яўгена Падгаецкага аб Крынанчы ў Белавежскай пушчы і інфармацыю пра Белавежу, але тую, якая знаходзіцца аж пад Быдгашчу.

Галоўным рэдактарам „Czasu Białowieży" з'яўляецца мастак Лех З. Навацкі. Дапамагаюць яму Альжбета Яблонская (былы галоўны рэдактар „Głosu Białowieży") і ніжэйпадпісаны.

**Пётр Байко**

# „На Божом судзе..."

[1 ☞ працяг]

Зарагаталі шчыра тады, калі Сакрат паведаміў, што толькі раз бачыў пасведчанне беларускасці Адама. Калі быў у Лондане, у яго рукі трапіла кніжка ўспамінаў нейкага генерала Леана Міткевіча, дзе на старонцы 278-ай аўтар прызнаецца, быццам меў энцыклапедыю па-французску з уласнаручным, аўтэнтычным надпісам Адама Міцкевіча: „Na Bożom sudzie usiem u żopu budzie", то як бы першы вядомы ўжо твор Міцкевіча нарэшце на айчыннай яму мове...

Для беларусаў ён свой, гаварыў Яновіч, але ніхто не сцвярджае, што ён не быў польскім паэтам. Жывіўся ён аднак беларускім краявідам. Узяць хаця б „Дзяды" — яны напісаны на чыста беларускай канве.

Ды нават жа і Томас Венцлова прызнаўся, што, хаця Міцкевіч у „Пану Тадэвушы" звяртаецца: „Літва! Мая айчына!", то адчуваецца, што нейк краявід там не вельмі літоўскі!

Тамаш Лубенскі падкрэсліў, што Міцкевіч усё жыццё меў клопаты з польскасцю. Яго польскасць — складаная. Быў ён грамадзянінам свету.

Галоўнае, што ўсе дыскутанты згадзіліся ў адным: Міцкевіч прычыніўся да новага адраджэння беларускай і літоўскай літаратур. Ён зблізіў нашы народы, хаця, як падкрэсліў вядучы Кшыштаф Чыжэўскі, „царскі валец, а пасля савецкі не зрабіў нас занадта аднастайнымі".

Вечар быў сапраўды цікавы. Прыехала нават шасцёра студэнтаў з Варшаўскага універсітэта (двое — з беларусістыкі, чацвёра — з паланістыкі, аддзялення культуразнаўства). Так мяне інфармавала сп. Малгажата Спорэк-Чыжэўская, рэдактар Фонду „Пагранічча" з Сейнаў.

Незабыўны быў канцэрт „Рамантычнасць" у Беластоцкім лялечным тэатры. Ці чулі вы, як спявае Марыя Круповес „Цяцеру", беларускую народную песню, якую, кажуць, любіла Марыля Верашчака з Туганавіч, каханая паэта!

Адначасова адбылася прамоцыя кампакт-дыска „Рамантычнасць", выдадзенага Польскім радыё ў Беластоку. У ёй сабраны песні з ваколіц Вільні, Трок, Любліна і Варшавы — народныя і шляхецкія, якія маглі спявацца ў кругу маладога Міцкевіча.

**Ада Чачуга**

*Фота Паўла Супернака*

# Гэта я, ваш Вася!

Васіль Петручук са сваіх пенсіянерскіх ашчаднасцей выдаў сваю новую беларускую кнігу. Зборнік смешных гісторый, якімі, як глупствамі, не можа займацца паэтычна-патэтычная „Белавежа", якой членам з'яўляецца аўтар. Праўда, магла б дапамагчы Праграмная рада тыднёвіка „Ніва", бо ж гэта зборнік дасціпных тэкстаў „**З нашай** званіцы", але шаноўны аўтар не звярнуўся да нас, а „Ніва" не запрапанавала яму скласці кнігу ў сябе. А шкада, бо нашы спецыялісты з вялікай сардэчнасцю і ўменнем **робяць** кнігі, выпешчваюць іх як найдаражэйшае дзіцятка, тым больш кнігі сяброў — дагледзяць кожную лішнюю косачку, чула аднясуцца да кожнага слоўца, нават „кіпцікі" чужамоўя ў іх маюць быць як след. Гэта „чорная" праца мае быць незаўважная для чытача: ён бачыць перад сабою акуратную з выгляду кніжыцу і адметнае аўтарскае слова. І шкада, што гэтая файная кніжка, эстэтычная на выгляд — *Клавуня, гэта я, твой Вася** Васіля Петручука не мае тае, якая павінна быць звычайнай, эдытарскай акуратнасці. Чытачу ўвесь час перашкаджаць будуць карэктарскія і іншыя памылкі, няправільныя пераносы, працяжнікі. Аж сэрца баліць, бо ёсць старонкі, дзе ў кожным абзацы трапляюцца такія „цацы"!

Але вернемся да тэкстаў! Старэйшыя чытачы з прыемнасцю ўспомняць, як Васіль Петручук званіў на сваёй званіцы яшчэ ў сямідзесятыя гады (для малодшых гэта ніўская прэгісторыя, невядомая ім, таму тым больш цікавая). Васілёвы перазвон гэта не пустазвон — усё тое, што апісаў, здарылася ў сапраўднасці (і ў думках, што таксама ёсць праўдай). Вядома, усё прыпраўлена гумарам, часам перцам сатыры. Погляд Васілёвы на нашага чалавека (найчасцей, вядома, мужчыну): „Цяпер мужык мае розум, якраз тады, калі трэба, калі прыходзіць нагода для яго прымянення" бачым мы на ўсіх старонках. „Жыву ў людным месце Беластоку, многія людзі ведаюць мяне", — кажа герой фельетонаў, Клавін муж, уладар „Сірэнкі", сусед, выхадзец з вёскі, дамарослы палітык і філосаф, чалавек які сніць сны і стараецца іх разгадаць, шукае і плануе, хварэе і лечыцца, стаіць у чэргах і купляе, злуецца і смяецца. Фельетоны маюць розную форму: раз гэта „допіс у рэдакцыю" ці пытанне да Астрона пра сон, які яму прысніўся, іншы — маналог ці дыялог, навелка ці апавяданне, гавэнда, палеміка. „Кім толькі ў жыцці я не быў, Божа мой! (...) А цяпер і замахоўцам на старасць стаўся! Не верыце? Паслухайце!"

Вядома, паслухаць цікава! Сустрэнеце на старонках канкрэтных людзей — самога аўтара, вядома, з жоначкай Клавуняй, хоць бы і Сакрата Яновіча, Колю Масальскага з Грабаўца, дырэктара складу з апалам Зіберблата, Хведара Адамішына... Нават Сталіна. Людзей добрых, пачцівых і цванікаў. Усё ў час цікавага XX стагоддзя, у жывую хвіліну, якую ўвекавечыў аўтар на старонцы тыднёвіка, у тую хвіліну, калі мяняецца свет, а канчаецца ўсё (у кніжцы) уступленнем нашай краіны ў НАТО (як жа ж гэтага магло не хапіць!). Злуецца Клавін муж Вася на подлае, бруднае і дурное, дзівуецца, дзівачыць часам, але ніколі не махае на ўсё гэта рукою. *Сэрцовы* чалавек наш Вася. Каб сустрэцца з ім яшчэ раз, зайдзіце ў „Ніву", набудзьце кнігу за 10 злотых, пасмяемся разам.

**Міра Лукша**

*Васіль Петручук, *Клавуня, гэта я, твой Вася*, Беласток 1998, сс. 146.

# Канцэрт у Дзень настаўніка

У суботу, 17 кастрычніка 1998 года, у Гайнаўскім доме культуры з нагоды Дня настаўніка адбыўся канцэрт „Мастацкія рэкамендацыі", у якім прымалі ўдзел вучні падставовых школ і старэйшыя сябры з II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.

Найбольш абшырную артыстычную частку падрыхтавалі вучні з Падставовай школы н-р 2, якія спявалі і гралі на фартэпіяна, а Кацярына Іванюк — на флейце. Вучні са школы н-р 5 выступілі са сваім кабарэ, а моладзь якая займаецца ў ГДК, падрыхтавала эпіграмы аб школе. Апошнімі выступілі белліцэісты, якія дэкламавалі фрагменты „Дзядоў" Адама Міцкевіча. Хаця на мерапрыемства прыйшлі і настаўнікі, і старэйшая моладзь, аднак, у асноўным, залу запоўнілі вучні падставовых школ.

**Аляксей Мароз**

# Парафія ў Дубічах-Царкоўных

Айца Славаміра Аўксенцюка сустракаю каля царквы, калі парадкуе навакол-ле. На цвінтары многа клумбаў з кветкамі. Айцец паказвае магілы святароў і асоб заслужаных у гісторыі прыхода. Расказвае пра мінуўшчыну парафіі.

— У 1533 годзе Сігізмунд Аўгуст даў дазвол на пабудову царквы ў Дубічах, і гэта першыя пісьмовыя звесткі пра наш прыход, — пачынае расказ настаяцель. — У спісках Падляшскага ваяводства ад 1661 года, апрача назвы Дубічы, паяўляецца назва Жыровец, якая абазначае луг або кусты. Яна захавалася да сённяшняга дня. Людзі гавораць, што спачатку царква апосталаў Пятра і Паўла была на ўзгорку, паблізу рэчкі Арлянкі і ўрочышча Бахматы. Паводле легенды, царква гэтая згарэла, а вецер перанёс ікону Пакровы Божай Маці на месца, дзе стаіць цяперашняя царква. Падчас генеральнай візітацыі ад 1727 года зроблена была заметка пра пажар, у час якога згарэла царква, што пацвярджае гэтую легенду. У гэты ж час парафія была большай, бо належалі да яе (апрача Дубіч) Грабавец, Чахі, Елянка, Рудка, Тафілаўцы, Другія Тафілаўцы, Арэшкава, Вэрсток і Курашава. Са звестак ад 1729 года можна даведацца, што пабудавана была новая царква Пакровы Божай Маці, магчыма, што звязаная з аднайменнай іконай з легенды, а Дубічы былі тады праўдападобна сядзібай дэканата. Успамінаецца тады і сям'я Краскоўскіх, якіх магілы можна пабачыць і сёння каля нашай царквы.

Ужо з расказаў цяперашніх жыхароў Дубіч-Царкоўных вядома, што другі раз царква згарэла летам 1941 года ад нямецкага абстрэлу, калі заўважылі на званіцы рускага разведчыка, які даваў намеры для сваіх. Пад абстрэлам жыхары баяліся гасіць. Апрача царквы згарэў тады і парафіяльны дом.

— Тут, дзе знаходзіцца парафіяльны дом, раней была царква, ініцыятарам пабудовы якой быў Ян Рыбак з Тафілаўцаў. У 1942 годзе купілі дом у Орлі і перавезлі ў Дубічы, перарабляючы на царкву, — далей расказвае айцец Славамір. — Адначасна пачалася пабудова новай царквы. Вясною 1948 года ўзвялі новы іканастас і пачаліся багаслужбы, але пабудова закончылася толькі ў 1954 годзе. Перад маім прыходам на парафію ў 1995 годзе мой папярэднік айцец Віталій Гаўрылюк зрабіў капітальны рамонт і пабудаваў новы іканастас. Стары перанеслі ў Елянку, дзе на могілках пастаўлена была новая царкоўка. Ужо нядаўна адрамантавалі мы і памалявалі царкву звонку і давялі да парадку агароджу. Унук згаданага Яна Рыбака — Рыгор Рыбак, разам з жонкай Ірынай ахвяравалі і самі пабудавалі каплічку пры царкве, у якой адбываецца малое асвячэнне вады. Гэтая сям'я прадпрымальнікаў з Тафілаўцаў памагае нашай парафіі і ў іншых справах. Ужо даўно жанчыны з Грабаўца ўзвялі мураваны крыж каля ракі Арлянкі, дзе адбываецца асвячэнне вады ў дзень Хрышчэння Гасподняга. Паколькі адбываецца гэта на рэчцы, прыязджае многа людзей з навакольных парафіяў. Вада асвечаная ў рэчках цячэ ў мора і асвячае ўвесь свет.

Айцец Славамір з'яўляецца адначасна катэхетам і вядзе ўрокі закону Божага ў Падставовай школе ў Дубічах-Царкоўных.

— Заняткі ў школе маюць вялікі ўплыў на духовае развіццё і дзяцей, і бацькоў, бо бывае так, што гэта дзеці намаўляюць бацькоў ісці ў царкву. Павышаецца рэлігійная свядомасць парафіян. Вучні знаёмяцца з традыцыямі сваіх бацькоў. Штораз больш маладых людзей бачу ў царкве і царкоўным хоры. У час заняткаў закону Божага размаўляем па-рознаму, але найчасцей гаворым з вучнямі на роднай мове іх бацькоў, якую дубіцкія дзеткі яшчэ ведаюць. Калі парафіяне прыходзяць за рознымі патрэбамі, таксама размаўляем на гутарковай дубіцкай мове: сам я са Скупава і мусіў крыху прывучыцца іншага дыялекту. Калі чытаю „Ніву", успамінаю і літаратурную беларускую мову.

У Дубічах-Царкоўных парафіяльныя святы — дзень Пакровы Божай Маці і дзень апосталаў Пятра і Паўла.

— Больш людзей збіраецца ў час свята Пятра і Паўла, а сёлета было мнагалюдна таму, што наведаў нас Бельскі епіскап Грыгорый, — кажа настаяцель. — Калі гаварыць яшчэ пра прыход, трэба сказаць, што парафіяне актыўна ўключаюцца ў працу. Апошнім часам зрабілі скальны агародчык і клумбы. Адносіны з гмінным уладамі таксама ў нас вельмі добрыя, яны дапамагаюць нам фінансава.

**Аляксей Мароз**

# Даліна

У нядзелю, 4 кастрычніка г.г. у перадачы „Украінска думка" Анатоль Туроўскі з Сацоў і Уладзімір Наумюк з Канюкаў выказваліся за вяртанне першабытнага стану рэчы Рудні — ад вёскі Сацы да ўрочышча Ставок — і даліне ракі Нарвы. Толькі тады вярнуліся б сюды птушкі, якія па прычыне меліярацыі ўцяклі адсюль.

Помню, як у пяцідзесятых гадах пачыналася сенажаць. Была тут яшчэ цераспалосіца і калі людзі ў першы дзень выходзілі касіць траву, выглядалі яны быццам статак буслоў. Пачыналі касіць з урочышча Сідзяшчэ, бо там цераспалосіца праходзіла праз раку. Касцы час ад часу збіраліся ў групкі пакурыць, пагутарыць. Потым з Сідзяшчага пераходзілі ў Востраў, Траян, а затым на Трыбу, аж пад вёску Пухлы. Месца касцоў займалі жанчыны ў рознаколернай вопратцы, быццам птушкі, што сюды прыляцелі з усяго свету. Пры касьбе было многа сваркі, бо калі хто-небудзь спазніўся, то яму заўсёды не хапала сваёй шырыні, на палосцы. Кожны гаспадар шырыню сваёй палоскі на кожным урочышчы меў пазначаную на касе.

Калісь кожны кусочак даліны ракі Нарвы быў выкашаны або выпасены каровамі. У Трасцянцы было пяць статкаў быдла, якія пасвілі пастухі.

Цяпер даліна ракі Нарвы стала дзікай. Ужо каля дзесяці гадоў ніхто не косіць там травы, не пасвіць кароў. Няма і тае рыбы ў рацэ, і рыбаловы прапалі.

Мне здаецца, што калі заходнееўрапейскія краіны і любіцелі прыроды хочуць яшчэ ў нашу дзяржаву ўлажыць свае грошы, каб вярнуць папярэдні стан прыроды, дык трэба як найхутчэй гэтым пакарыстацца. А ў Трасцянцы ёсць магчымасць стварыць адпачынкавы цэнтр. Каля малачарні ў напрамку могільніка ляжыць дзяржаўная зямля, якую можна падзяліць на ўчасткі і прадаць гараджанам пад будову дачаў. Пры нагодзе будзе даход і сялянам, калі гараджане стануць прыязджаць сюды адпачываць — тут вельмі чыстае паветра.

Варта каб новавыбраны самаўрад гміны Нарва сур'ёзна аб гэтым падумаў.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вёска — сталічная цёзка

Калі Аляксандр Грыгарук з Гарадзіска расказваў мне пра наша мінулае („Ніва", н-р 37, 38), згануў ён пра нямецкія могілкі ў Бярначчыне. Дагэтуль я пра такое не чуў, таму і вырашыў бліжэй вывучыць гэтае пытанне. Спадар Грыгарук не мог мне іх паказаць, бо хаця ніколі на працягу свайго доўгага жыцця не хварэў, усё ж такі некалькі гадоў таму ў Гайнаўцы збіла яго машына і траўміравала яму ногі. Падаўся я тады на другі канец уяўнай мяжы між Белавежскаю і Лядскаю пушчамі, да Мікалая Сухадолы з Падляўкоўя і ён ахвотна згадзіўся мне паказаць тыя загадкавыя могілкі.

— Зойдзем яшчэ ў Бярначчыне да Фяўронні Стоцкай, — сказаў ён, — ёй ужо пад сотню, яна раскажа больш.

Паехалі мы. Абхадзіў я тыя могілкі, аднак ужо крыжа, пра якога існаванне згадвалі і Аляксандр Грыгарук, і Мікалай Сухадола, я не знайшоў. І да спадарыні Стоцкай мы таксама не заходзілі, бо ўжо вечарэла.

Праз нейкі час паехаў я да яе адзін. Выведаўшы, што я родам з Ляўкова і хачу пісаць у „Ніву", яна спытала:

— То ты будзеш Целушэцкі?

— Не, Вярбіцкі, — адказаў я.

— Калісь быў такі *віцінар*.

— Гэта быў мой дзядзька.

— А! І Валя Мяфодзіева выйшла за Вярбіцкага...

— Так: за майго дваюраднага брата.

Устанавіўшы такім чынам наша далёкае сваяцтва, спадарыня Стоцкая расказала мне ўсё, што захавала яе памяць пра нямецкія могілкі ў яе вёсцы:

— Калісь у Бярначчыне жылі адны немцы. Яны мелі тут сваю кірху і свае могілкі. Аднак даўно таму, не пры маёй ужо памяці, яны папрадавалі сваю маёмасць жыхарам навакольных вёсак, м.інш. Капітаншчыны і Параслага, і недзе выехалі, забіраючы з сабою і сваю кірху. Тут з немцаў быў астаўся толькі адзін Ланг, але і яго сям'я пару дзесяткаў гадоў таму пераехала ў Беласток. Асталіся толькі могілкі; немцы, якія прыходзілі сюды ў першую і другую сусветныя войны ведалі пра іх, але ўжо сваіх нябожчыкаў там не хавалі. Некалькі гадоў таму гэтыя могілкі хацеў узяць пад сваю апеку бацюшка з Ляўкова. Калі ён гаварыў пра гэта з вяскоўцамі, згадваў пра прыгожыя дрэвы, якія там растуць. Ага! — падумалі мы: яго цікавяць нашы дрэвы, і не згадзіліся перадаць яму гэтыя могілкі.

— А куды тыя немцы выехалі?

— Пра гэта мая мама нічога не згадвала.

Ну што ж — дзякуй спадарыні Стоцкай і за гэта. А ці сама назва вёскі — Бярначчына — не выводзіцца ад нейкага немца, якому было на імя *Bernhard*? У слоўніку *Das kleine Vornamenbuch* (Leipzig, 1972) прыводзіцца этымалогія гэтага імені: **Bernhard** (ahd: bero, bern- + hart), Bär und stark; Kurzformen **Bernd**, *Benno, Berno, Bero*. Значыць, імя Бернард павінна было неяк запэўніваць яго носьбіту мядзвежую сілу, а назва Бярначчыны можа выводзіцца ад мядзведзя, які на старaверхненямецкай мове называўся *bern* — так, як сёння называецца сталіца Швейцарыі! Ды і назва сталіцы Германіі таксама ад мядзведзя: мядзведзь і ў гербе Берліна...

На афіцыйнай у нас польскай мове вёска называецца *Bernadzki Most*; ці тутэйшыя немцы не называлі яе напр. *Bernhardsbrücken*, падобны на *Saarbrücken* — сталіцу Саарскага ланда на рацэ Саар у Германіі? Слова „мост" здараецца ў назвах мясцовасцей, напр., *Most* на прытоку Лабы Біліне ў паўночна-заходняй Чэхіі, *Bruck* у Аўстрыі на прытоку Дуная Зальцаху, на прытоку Дравы Муры ці зноў на прытоку Дуная Лейце (Літаве); у апошняй мясцовасці сардэчны калега добрага ваякі Швейка сапёр Вадзічка рынуўся лупцаваць нейкага старога і лысага мадзьяра, бо Вадзічка не цярпеў мадзьяраў, а той у дадатак яшчэ ўзняў авантуру супраць добрага ваяра Швейка, які прынёс пісмяцо свайго лейтэнанта Лукаша маладой жонцы згаданага мадзьяра, у якой стройны лейтэнант прапанаваў ёй супольна скаратаць час з вечара да раніцы; у выніку мадзьярскія ганведы заперлі і Вадзічку, і Швейка ў арышт!.. І зусім недалёка, на Нёмане, маем *Масты*. Самым жа слаўным „мостам" з'яўляецца *Cambridge* на рацэ Кем у Англіі з адным са старэйшых у свеце універсітэтаў, заснаваным у 1209 годзе. А сталіцаю астраўной дзяржавы Барбадас на захадзе Атлантыкі з'яўляецца *Bridgetown* — „Горад мастоў"...

Сама Бярначчына на рачулцы Яблынёўцы хутчэй за ўсё не збіраецца быць нейкаю сталіцай. Пусцее яна, як і другія тутэйшыя вёскі, а яе ўраджэнцы перасяляюцца, следам за спадаром Лангам, у „сталіцы" паветаў, ваяводстваў і другія знатныя мясцовасці. Здзяйсняюць яны адвечную прагу нашага люду, ад імя якога казачны мужычок-Іванка шчасліва браў за жонку каралеўну і пераязджаў на выгаднае жыццё ў каралеўскі замак. У сталіцу!

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Наведае нас Патрыярх Алексій ІІ

На днях 10-16 кастрычніка г.г. вернікі Праваслаўнай царквы ў Польшчы сустракалі Усяленскага Патрыярха Варфаламея І. Саноўнік з Канстанцінопаля наведаў самыя значныя месцы праваслаўнага культу ды асвяціў царкву Мудрасці Божай (Агія Сафія) у Беластоку.

У пачатку мая 1999 г., у пасхальны перыяд, наведае нашу краіну Патрыярх Масквы і ўсяе Русі Алексій ІІ. У праграме візіту прадбачваецца знаёмства Саноўніка з працай і жыццём Праваслаўнай царквы ў Польшчы.

Да прыезду Патрыярха асабліва рыхтуюцца вернікі і духавенства Свята-духаўскай парафіі ў Беластоку (у кожную суботу будуць яны наводзіць грамадскім пачынам парадкі вакол храма). Алексій ІІ у час свайго візіту, між іншым, асвяціць самы вялікі праваслаўны храм у Польшчы — беластоцкую царкву Святога Духа.

**(гак)**

# У шапачцы народжаны

**У кожнага свая доля. Некаторыя ўсё жыццё ледзь канцы з канцамі зводзяць, а іншым шанцуе „як з яйца, так і да канца". Пра такіх гавораць, што яны ў шапачцы нарадзіліся або пад шчаслівай зоркай...**



*Ян Кердалевіч (1997 год)*

Яну Кердалевічу з вёскі Чаромха 97 год стукнуў. Дзядуля яшчэ бадзёры. На веласіпедзе ў пасёлак з'ездзіць. Нават у адлеглую Гайнаўку без праблемаў дабіраецца! Сцірку сам зробіць, у хаце папрыбірае, бо дзедку век прыйшлося адзінокаму дажываць. Нават электракасілкай акуратна траву на панадворку прыстрыжэ. У дзядулі Кердалевіча памяць дасканалая. Аднавяскоўцы зайздросцяць старэчы не так ужо здароўя, што дастатку ў хаце. Заглянуў я аднойчы ў Чаромху, каб дзядулю Кердалевіча наведаць, пра даўніну і ягоную долю распытаць. А калі ўжо пасля кароценькага азнаямлення прыселіся ля століка ў кухні, пачуў я вось такую гісторыю.

— Нарадзіўся я ў чэрвені 1902 года. У сям'і самым малодшым быў, бо дадзве сястрыцы старэйшыя ад мяне: Фёкла і Ганýся. Бацькі невялічкую гаспадарку мелі, усяго два гектары. Аднак нядрэнна нам жылося. Хлеб са стала не сходзіў, ды і ў прыкуску яшчэ нешта хапала. Бацька апрача гаспадаркі цяслярствам і гандлем быдла займаўся. Паедзе, бывала, на цягніку з Чаромхі ў Брэст, прыкупіць некалькі каровак і пехатой дамоў іх гоніць. Пасля на кірмашы іх прадаваў... Калі закончыў я дзевяць гадоў, у царкоўную школу паступіў. Школа ў нашай вёсцы была, а навука працягвалася тры гады. За навучанне і падручнікі ніхто не плаціў. Кошты з тым звязаныя пакрывала тадышняя ўлада. У той час каля паўсотні дзецюкоў вучылася са ста гаспадарак.

У 1915 годзе царскія ўлады загадалі сялянам акопы будаваць. З кожнай хаты вымушаны быў паехаць адзін чалавек. З нашай гаспадаркі мне выпала на долю. Я трапіў у Гонёндз. Атрымаў прыкамандзіраванне. Ва ўказе гаварылася, што пры пабудове акопаў маем быць месяц часу. Аднак ніхто гэтага не перасцерагаў. Быў агульны балаган у вайскоўцаў. Работа была няцяжкая, але і так яе ўсім не хапала. Швэндаўся тады кожны на свой спосаб, аднак выбрацца адтуль без пропуска было немагчыма.

Я кватараваўся з чатырма іншымі хлопцамі ў зычлівага гаспадара — паляка. Калі мінуў назначаны для нас час камандзіроўкі, а пра вяртанне дамоў ніхто не намякаў, мы надумаліся ўцякаць. Наш гаспадар паказаў нам самае плыткае месца на рэчцы Нарве. Мы пабеглі.

З-пад Асоўца ў Беласток дабіраліся пешшу. Адтуль дамоў, у Чаромху, на цягніку.

Не суджана было затрымацца ў роднай вёсцы. Усё больш і больш гаварылася пра набліжэнне немцаў. Хмарамі пачалі цягнуць табары людзей у бежанства. Пачаткова ніхто нікога не прымушаў, але калі ў Чаромсе засталося некалькі сем'яў, казакі сілком заставілі пакінуць ім свае кватэры. Да „марудных" і наша сям'я залічвалася. У Кляшчэлі „суправаджалі" нас казакі. Адтуль самі накіроўваліся мы далей.

Спыніліся мы ў Пружанах на палянцы для бежанцаў. Раптоўна падышоў фронт. Нас у палон захапілі немцы. Загадалі вяртацца дамоў. З намі вярталася каля дваццаці падводаў з чарамшукамі.

І так мы вярнуліся ў сваю Чаромху. Панамі і гаспадарамі былі ўжо тут немцы. Прымушалі яны мужчын працаваць на чыгунцы. Я папаў на ўчастак за Дабрывадай, а кватараваўся ў апусцелай дабрывадскай хаце. Дамоў, у Чаромху, прыязджаў толькі ў нядзелю. Тэхнічныя кадры састаўлялі немцы (майстар, таровы, работнікі). Мы лічыліся сезоннымі работнікамі. На гэтай рабоце я заставаўся недзе да 1918 года, значыць, да нямецкай рэвалюцыі (якая ўзнікла ў Германіі зараз жа пасля расійскай). Пасля нас адпусцілі дамоў.

У 1922-1925 гадах працаваў я работнікам чыгуначнай тэлефоннай сувязі разам з Хведарам Сідаруком з Кузавы (маім бацькам — У. С.) і Мікалаем Малюхам з Кляшчэляў.

У 1923 годзе ажаніўся я з Наталляй, дзяўчынай са сваёй вёскі. Нарадзіліся ў нас дзеткі, сын Мікалай, дочкі Лідзія і Марыя.

Да 1927 года працаваў па-ранейшаму работнікам тэлефоннай сувязі, пасля дарожным. З 1927 г. назначылі мяне столярам. Гэтай прафесіі вучыўся я ў бацькі і аднавяскоўцаў. Нямецкую акупацыю я правёў дома. Арганізаваў у вёсцы краму. Так пражылі мы да вызвалення.

У 1948 годзе паехаў на работу ў шахты. Аформіўся на працу, дзе здабывалі руду урану. Вёска і прадпрыемства называліся Строне-Сьлёнске. Хаця шахта была польскай, загадвалі ёю саветы. Там спыніўся я ўсяго на два месяцы.

Аднойчы ў мясцовай газеце прачытаў аб'яву, што ў шахтах незадоўга будзе абавязваць „службовая дысцыпліна". На практыцы абазначала гэта, што кожная адсутнасць на рабоце будзе падвяргацца пакаранню. Я дасканала разумеў новы загад.

Калі я не выйшаў на работу і сказаў, што яе пакідаю, мяне абвінавацілі і справу перадалі ў суд. Але я ўжо паспеў у той час аформіць працу ў Варшаве ў вайсковай будаўнічай фірме, і судзілі мяне ў Варшаве. Прыгаварылі мяне на два тыдні дармовай працы ў сваёй былой шахце. Я тое выканаў.

У будаўніцтве пачаткова працаваў цеслярам, потым шкляром. Безупынна пераязджаў з горада ў горад, як гэта бывае пры камандзіроўках на вайсковых пабудовах. І так я трапіў з Варшавы ў Асавец, а ў канцы ў вайсковую часць у Нурцы. Плата ў мяне была нядрэннай, таму і сям'я жыла ў дастатку.

Пасля ліквідацыі ў 1964 г. нашай фірмы ў Нурцы, я стаў работнікам варшаўскай фірмы „Будомонтаж". На новай пасадзе пачаў я працаваць у кар'еры крэйды ў Корніцы, затым пераехаў ў Лосіцы. Адтуль у 1967 годзе падаўся на пенсію.

Як бачыце, — падкрэслівае ў заканчэнні свайго расказу дзядуля, — я з'яўляюся пенсіянерам ужо больш за 30 гадоў.

— Скажыце, калі ласка, як ацэньваеце мінулы час і сваё сямейнае жыццё?

— Мне здаецца, — з усмешкай кажа старэча, — што ўсё было так нядаўна! А васемнаццаць гадоў мінула, як пакойная жонка адышла з гэтага свету. Восем гадоў як сына аплакаў. Адукаваны быў, вышэйшую адукацыю ў Ленінградзе атрымаў. У Варшаве пражываў апошнім часам, у энергетыцы працаваў...

— А што з дочкамі?

— Абедзве замужнія. Адна ў сваёй вёсцы, а другая ў Гайнаўцы. Дачакаўся я ўнукаў і праўнукаў. Не прыгадаю ўсіх. У мінулым годзе на вяселлі праўнука ў Бельску гуляў.

Дзядуля Кердалевіч паказвае дакументы, ганаровыя граматы. У мінулым годзе беластоцкі ваявода адзначыў Яна Кердалевіча Срэбнай адзнакай „Заслужаны Беласточчыне".

— Людзі ў Чаромсе зайздросцяць мне зараз, — уздыхае дзядуля. — Кажуць, што век лёгка пражыў і такую вялікую пенсію атрымоўваю. Знайшліся і такія, што ў час маёй пабыўкі ў шпіталі абакралі маю майстэрню! Ведаю нават, хто гэта зрабіў. У паліцыю я заявіў, але віноўных не пакаралі. Пракуратура спыніла расследаванне па прычыне „браку віноўных". І таму цяжка на сэрцы робіцца, калі такую несправядлівасць чалавек бачыць...

**Уладзімір Сідарук**

# Жыццё плыве вельмі хутка

**У Шарнях Арлянскай гміны жыве 87-гадовы Сцяпан КУКУЛКА, сям'я якога заўсёды была звязана з гэтай зямлёю. Нават у час бежанства, калі з Шарнёў выехалі амаль усе жыхары, брат ягонага дзеда, Нікан, з жонкай не пакінулі бацькаўшчыны.**

— На гэтай шарнёўскай зямлі жывем спакон вякоў, — кажа мой суразмоўца, — а я толькі два гады таму перадаў наследніку сваю гаспадарку і адправіўся на пенсію.



У 1915 годзе ўся вёска выехала ў Расею, але так атрымалася, што ў вёсцы застаўся дзедаў брат, Нікан Кукулка. Падаліся ў бежанства дзед Тарас, бабуля Галена, бацька Ермалай, маці Марфа і дзеці — чатырохгадовая Дунька, аднагадовы Мацвей і я — трохгадовы малеча. Пасялілі нас у вёсцы Даліванаўскае каля Арцішчава Саратаўскай губерні, 150 кіламетраў за Масквой. Пасля паўгадовага прабывання ў ёй перанеслі нас у Кісялёўку, дзе жылі мы ў пустуючым памешчыцкім доме. Быў там таксама сад, якога пільнавалі бальшавікі.

Спачатку жылося нам добра. Мясцовае насельніцтва дапамагала бежанцам. Маці займалася дзяцьмі, потым пайшла на працу ў бойні. Бацька атрымаў работу на чыгунцы. Спярша разгружаў вагоны, потым працаваў счэпшчыкам і стрэлачнікам, аж урэшце назначылі яго намеснікам начальніка станцыі. Наш бацька расказваў, што аднойчы рабочыя прынеслі на станцыю два вядры нейкага спірту. Пілі ўсе, але ён не даў намовіцца да згубы ў п'янцы. Неўзабаве ўсе васемнаццаць чалавек, якія пакаштавалі невядомага алкаголю, памерлі.

Пасля рэвалюцыі наступіў цяжкі час. Пачаўся голад. Бацьку не хацелі адпусціць з работы. Выехаць удалося толькі ў 1921 годзе. Падставілі нам таварны вагон і ў лістападзе былі мы ўжо ў Шарнях.

Вёску пазнаць было цяжка. Лепшыя будынкі былі разабраны, вясковую дарогу параслі дрэвы і кусты. Наша старэнькая хатка стаяла, але новую клуню яўрэі расцягнулі. Зноў было нам вельмі цяжка. Не ставала хлеба, не было вопраткі і ботаў, трэба было хадзіць боса. У 1925 годзе бацька паставіў клуню, якой яшчэ карыстаюся (на здымку).

Я ажаніўся з мясцовай дзяўчынай Юліяй Шэршань у 1941 годзе. Саветы, наводзячы свае парадкі, планавалі саслаць у Сібір дзесяць найлепшых гаспадароў, але не паспелі; вывезлі толькі Мікалая Рыдза з жонкай. У 1944 годзе гітлераўцы спалілі палову вёскі — з аднаго боку вуліцы. Нашы збудаванні засталіся.

Восем гадоў пазней, якраз у жніво 1952 года, з-за неасцярожнасці дзяцей або ад недакурка зноў успыхнуў пажар, гэтым разам з боку калёніі. За сорак мінут згарэла палова вёскі.

Меў я тры гектары зямлі, потым дакупіў яшчэ пяць ад чалавека, які выехаў у Амерыку. Апрача гэтага працаваў я са шваграм, Янам Шэршнем, пры расколванні палявых валуноў. Часам хапіла аднаго каменя на палову фундамента пад хату.

Прыйшлі на свет дзеці — трох сыноў і дзве дачкі. Пабудаваў я новы мураваны дом, а старую хату пакрыў бляхай. На панадворку выкапаў я ўласнаручна дзве студні. З часам купілі мы трактар і сельскагаспадарчыя машыны. Але ў старых будынках захоўваю музейныя ўжо экспанаты: жорны, церніцу, ступу і іншыя прылады. Толькі два гады таму перадаў я зямлю сыну. Працаваў я на кукуль сіл хапала — ад 10 да 85 года жыцця. Сёння я ўжо свабодны, але і жыць ужо няма калі. Жыццё, хаця бывае вельмі складаным, плыве вельмі хутка.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Лячыцеся музыкай

Чытач падумае: „Вось яшчэ адна газетная вутка. У мяне мужыцкая душа: калі дакрануся, памацаю і вазьму на зуб, тады і паверу”.

Лячэнне музыкай — гэта „музыкатэрапія”. Яна — як і электрычнасць — уздзейнічае на арганізм, але яго сутнасць вучоныя яшчэ да канца не расшыфравалі. Не ведаюць без рэшты і як працуе чалавечы мозг. Але практычныя доказы існуюць. Гэта рэзультат эксперыментаў у 69 універсітэтах ЗША і ў Музыка-тэрапеўтычным таварыстве (Music Therapy Association).

4-гадовы хлапчук мае параліч мозгу. У музыкатэрапеўта ён бубніць у рытм музыкі ды прабуе стукаць па клавішах піяніна. Калываецца адпаведна да мелодыі. Гэта павышае ў яго матывацыю і ўвагу ды каардынуе рух яго членаў.

79-гадовы чалавек, які меў інфаркт сэрца слухае вальсы Штраўса і гэта памагае яму зноў навучыцца хадзіць.

Калі жанчына родзіць, музыка памагае ёй каардынаваць сутаргі яе маткі.

Нат зусім здаровыя людзі памагаюць сабе музыкай усялякага роду, каб памякчыць стрэс (напружэнне нерваў).

Шатландскія вучоныя прыйшлі да вываду, што дзённая доза музыкі Моцарта або Мендэльсона ўстараняе дэпрэсію і баязлівасць, робіць людзей больш стабільнымі і таварыскімі.

Музыка памагае ў хваробе Альцгеймера ды іншых неўралагічных хваробах.

Заўчасна народжаныя дзеці раней пакідаюць бальніцу, калі ім іграюць калыханкі.

Напяванне, мурлыканне з зачыненым ротам у малачастотным рытме працягам дваццаці мінут пасля аперацыі на адкрытым сэрцы лагодзіць боль у пацыентаў.

Даследчыкі ўжо даўно ведаюць, што, напрыклад, слуханне музыкі можа непасрэдна ўплываць на пульс, крывяны ціск і электрычную дзейнасць мускулаў. Яны таксама падазраюць, што музыка можа памагаць у будове ды ўмацаванні сувязей між нервнымі клеткамі ў мазгавой абалонцы.

На каліфарнійскім універсітэце (Ірвін) у 1993 г. было выяўлена, што выслухаўшы Моцарта перад тэстам на колькасць інтэлігенцыі экзаменаваныя дабіваюцца дзевяці пунктаў больш як іншыя.

Дай у аборы каровам сімфанічныя мелодыі, тады надоіш больш малака!

Калі ў лясной вартоўні іграюць на скрыпцы, дзікія алені падыходзяць бліжэй, каб лепш пачуць гукі.

У Ісландыі здарылася вось што. Там на пустэчах трымаюць коз у агароджах, а казлы ходзяць самапас. Адна турыстка пайшла сама пагуляць, а тут знянацку падбег да яе велічэзны казёл. Яшчэ хвілінка і ўрэжа ёй у жывот свае вострыя рогі! Навокал нікога. „Божа ж Ты мой! — памалілася спужаная жанчына, — Ратуй мяне!” І тут пачула ў сваім сэрцы голас: „Заспявай псальм”. Дрыжачымі губамі ды акалеўшым языком пачала спяваць. Казёл спыніўся, пакруціў галавой, патрос барадой, супакоіўся і паволі адышоў.

А ў грэчаскай міфалогіі быў Арыён, які спевам мог уціхамірыць нат марскі шторм.

Ваша лячэбная мелодыя павінна быць выбрана з тысячаў мажлівых музычных твораў. Найграйце яе многа разоў падрад на магнітафонную касету. Вядома, не кожны любіць тое самае. Але ёсць шэдэўры, якія ўсім падабаюцца. Для прыкладу, аўстрыйская калядка „Ціхая ноч, святая ноч” у выкананні хору Ю. Шурбака або „Авэ Марыя” Гунода. Можаце праверыць магічную сілу царкоўнага гімна „Ангел вопияше Благодатней, чистая Дево, радуйся” Часнакова на касеце XIII Гайнаўскага Фестывалю. Радыёмагнітафончык каштуе менш як 200 злотых.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Якія мы людзі

Дзіўны мы народ: калі каму бяда — дапамагаем яму плакаць, а калі нейкага бюракрата ці злыдня скрытыкуем на старонках „Нівы” — дык карэспандэнт будзе вінаваты і „дабрадзеі” будуць яго пячы ў жывыя вочы, маўляючы, што нельга чапаць чалавека, толькі любіць таго злыдня, як бліжняга. І „дабрадзеі” тыя прытрымоўваюцца прынцыпу „твой вораг — мой найлепшы прыяцель” і, калі ён пры карыце, стараюцца яшчэ падлізацца яму. Гэта людзі, якія „Ніву” не чытаюць, ніколі яе не выпісвалі і яны стараюцца кляйміць карэспандэнтаў; паводле іх, хто піша ў „Ніву”, дапускаецца найбольшых грахоў і пойдзе ў пекла.

Аднойчы ішоў я з царквы і адзін вернік з суседняй вёскі пачаў мне гаварыць:

— Калі я спаткаў у Гайнаўцы свайго начальніка, той стаў распытваць мяне: што гэта за чалавек М. Панфілюк з Дубіч-Царкоўных і чаму жыхары не прагоняць яго з вёскі?

— А ты яму што адказаў? — спытаў я.

Ён замяўся:

— Я сказаў, што Панфілюка не ведаю...

Вось якія нашы людзі — яны мяне „не ведаюць”! І напэўна мой знаёмы і „бліжні” дапамагаў свайму начальніку лаяць мяне, каб прыпадабацца яму. А каб сказаць шчырую праўду, што Панфілюк карыстаецца пашанай і аўтарытэтам у сваіх аднасяльчан і ніхто нават у думках не намерваецца гнаць яго з вёскі — мой „бліжні” не адважыўся; лягчэй было сказаць паклёп у мой адрас. А ён жа і тады ведаў, і сёння ведае, што я ворагаў, здаецца, нідзе блізка не маю.

Што можна пра такое сказаць? А хіба адно толькі тое, што крытыка на старонках „Нівы” смярдзіць не толькі тым, пра каго гаворка, але і тым, пра якіх у ёй і няма. Гэта, думаю, вывадзіцца з духовай злосці: каб чалавеку, які змагаецца з бюракратыяй і злачыннасцю, дакучаць з усіх бакоў. І бяда, што жулікаў рознай масці бароняць розныя „дабрадзеі”. Адзін з іх нават сказаў мне:

— Табе нельга пісаць у „Ніву” ніякай крытыкі; плюнь на яе („Ніву”) і размаж.

Так, праўда ў вочы коле, але гэта не грэх, калі яна знойдзе месца на старонках „Нівы”. За праўду трэба часта і пацярпець, і пачуць паклёпы і насмешкі.

**Мікалай Панфілюк**

Адгалоскі

# Рак лезе ўзад

Прачытаў я ў „Ніве” (№ 37 ад 13.09.1998 г.) артыкул Мікалая Панфілюка „Аб дабрадушнасці немцаў” і вельмі над гэтым задумаўся. Яшчэ раз вярнуўся да артыкула Міхася Куптэля „Немцы — дэмакратычны народ” (у „Ніве” № 34). Аўтар, на маю думку, не расхвальвае немцаў, а толькі піша, што немцы цяпер змяніліся, сталі дэмакратычнымі. Ёсць у допісе М. Куптэля крыху няпраўды. Беларуская моладзь не ехала ахвотна на працу ў Нямеччыну. У маёй ваколіцы не здарылася, каб хто-небудзь добраахвотна паехаў на работы, усіх сілай бралі.

Калісьці ў „Ніве” М. Панфілюк крытыкаваў рускіх, апісваў, якія яны былі лахудры прыйшоўшы на нашу зямлю. Ён расхвальваў немцаў, пісаў як яны раздавалі цукеркі, шакалад, а нават кансервы. М. Панфілюк раз расхвальвае немцаў, а раз рускіх, а потым крытыкуе карэспандэнтаў не ведаючы за што і сам думае, што толькі ён піша праўду. А гэта не так...

**Мікалай Лук'янюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, на двары стаіць цудоўнае, сонечнае надвор'е. Я ў лесе: збіраю грыбы. „Бабіна лета” штораз казыча мне твар. Грыбоў я назбіраў поўны кошык. Успацеў, горача! Шчаслівы вярнуўся дамоў. А ноччу прыснілася, што я апрануў кажух — доўгі, да пят сягае мне, ды яшчэ з двума каўнярамі. Прачнуўся і здзівіўся, што, да чаго ж гэты сон? Мо станецца штосьці кепскае?

І другі сон. Мая дачка ў Амерыцы. Даўно я ўжо яе не бачыў. А тут вось прыснілася мне, што яна прыехала, ды такая стройная, прыгожая, апранутая ў блакітную сукенку. Гляджу і захапляюся. Што будзе, Астроне?

**Сцяпан**

Даражэнькі Сцяпанка! Толькі не пужайся, прашу цябе. Твае сны добрыя. Адкуль жа ты ўзяў, што станецца нешта кепскае, калі кажух сніць якраз вельмі добра! Абазначае ён поспех у справах, а мо нават нейкі прыбытак табе. А вазьмі ж яшчэ пад увагу, што ў тваім кажусе было два каўняры, то, думаю, што і прыбытак твой мо будзе падвойны, або прыйдзе ён як бы з дзвюх крыніц.

Што датычыць другога сну, дык ёсць у ім супрацьстаўныя элементы. Наогул сніць дачку — дык так і чакай нейкіх праблем і непрыемнасцей. Але ў тваім сне дачка прыехала з-за граніцы, а гэта можа абазначаць, што ўсе твае клопаты будуць звязаны з пераменамі на лепшае. Дачка ў сне прадставілася табе як вельмі стройная і прыгожая жанчына, а такая жанчына ў сне прадвяшчае радасць і задавальненне. Іншая справа, калі б прыснілася жанчына старая і брыдкая. Тады агарнуў бы цябе смутак у сувязі з нейкімі плёткамі вакол цябе або тваёй сям'і. Не, ты гэтага не бойся! Тая ж дачка на дадатак была апранута ў блакітную сукенку, а блакіт гэта колер спакою, міру і згоды.

Так што, магчыма, і твае справы якраз зменяцца на лепшае і пойдуць у гэтым напрамку.

**Астрон**

# БАЎМА дае працу

Прадпрыемства па эксплуатацыі гравію варшаўскай Фірмы БАЎМА С.А. у Дабрывадзе (Кляшчэлеўская гміна) дзейнічае ўсяго пяць месяцаў. Тут мае яно свой кар'ер. Геалагічныя даследаванні пацвердзілі багатыя залежы гравію. Фірма БАЎМА выпускае дарожна-будаўнічыя матэрыялы, між іншым, асфальт, брусчатку і бетонныя пліты ды займаецца пабудовай асфальтаваных дарог.

БАЎМА купіла 20 гектараў зямлі ад мясцовых сялян ды ўзяла ў арэнду 12 га ад управы Кляшчэляў. Мае яна намер купіць яшчэ больш зямлі з залежамі гравію, а таксама купляць палявое каменне ў ваколіцах Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага і Сямятыч.

Цяпер у кар'еры ў Дабрывадзе выкарыстоўваюцца машыны ірландскай фірмы Power Screen. Працуе ў ім дваццаць чалавек з ваколіц Кляшчэль.

БАЎМА не толькі дае працу. Яна дапамагла пры пабудове царквы ў Дабрывадзе, аказала падтрымку аматарскім песенным калектывам з Дабрывады і Дашоў, якія сёлета ўдзельнічалі ў раённых элімінацыях конкурсу народнай песні ў Кляшчэлях.

**(гай)**

# Сустрэча з паэзіяй

29 кастрычніка г.г. у Гарадской публічнай бібліятэцы ў Сямятычах па вул. Палацовай 10 адбудзецца аўтарская сустрэча з **Юзэфам Карпюком** з Сямятыч. Варта адзначыць, што якраз цяпер прыпадае 20-годдзе ягонай творчай дзейнасці. Пачатак мерапрыемства а гадзіне $17^{00}$. Усіх зацікаўленых запрашае мясцовы Літаратурны клуб.

**(яц)**

***Ніва***, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка




*„Суне хто яму ў руку кольт, а газетам — ньюс!"* Мал. Алега КАРПОВІЧА

## Хрушчоў вечна жывы

Па Польшчы хадзіў некалі такі анекдот:

Паехаў Мікіта Хрушчоў у Амерыку, разглянуўся па Вашынгтоне і кажа прэзідэнту Эйзенхаўэру:

— Вашы грамадзяне зусім бескультурныя — апаражняюцца каля парканаў на вуліцы.

Эйзенхаўэр уручыў Хрушчову кольт і адказаў:

— Калі вось убачыце такіх, тады страляйце па іх.

На другі дзень вашынгтонскія газеты красаваліся аншлагамі: „Лысы гангстэр пастраляў усіх працаўнікоў савецкага пасольства".

* * *

Бадай у чацвер 15 кастрычніка ці ў які дзень каля яго валокся я каля 7.15 раніцы беластоцкаю вуліцай Бэма. Перада мною машына *Ford Mondeo* на дыпламатычных нумарах WA-86900 прама перасякла вуліцу Каперніка, ігнарыруючы правілы руху на тым скрыжаванні, якія забараняюць ехаць прама, толькі наказваюць павярнуць направа, з пазнейшымі паваротамі. Хто ездзіць на гэтай машыне — для беластачан ніякая тайна, бо тут толькі адно замежнае прадстаўніцтва.

Не адзін толькі першы грамадзянін дзяржавы стварае імідж сваёй краіны ў замежжы — ствараюць яго і звычайныя ўладзіцелі машын на дыпламатычных нумарах. І што будзе, калі прэзідэнт Лукашэнка неспадзявана, як у нейкі калгас, з'явіцца ў Беласток? Ён жа з аднаго боку, як агульна вядома, вельмі не любіць, калі нехта стварае яму канкурэнцыю, а з другога боку — вельмі любіць наводзіць парадкі. Суне хто яму ў руку кольт, а газетам — ньюс! **(ав)**

## Райка і шчырае люстэрка

Стаяла Райка ў жалезнай краме. У добры час трапіла Райка туды на працу, бо і час быў агульна добры, як кажуць людзі, і Райка будавалася, а сама вёска расла ў сілу ды людзі жылі ў дастатку. Памятаеце? То паслухайце.

Было тады ў вёсцы каму купляць. А што купляць! Які выбар, тое і купіш, абы грошы меў. У жалезнай Райчынай краме — усё; хочаш вядро — бяры, колькі на рукі *палажэна*, але ёсць, праўда, адны цынкавыя. Бяры тканіну, чобаты гумовыя, газу, ровар нават, дамку ці з рамай, бо дзве штукі стаяць... А люстэрак то можаш купіць колькі хочаш, каб памадай (ёсць таксама яна ў жалезнай Райчынай краме) губ крыва не памаляваць ды не разрэзацца брытвай (ёсць і яны) ад вуха да вуха. А адно, найбольшае люстра, вісіць у Райкі за спінай, ды не прадае яна яго, не. Ано выйдзе пакупнік з крамы, яна ў тое люстэрка ўзіраецца, пытаючыся:

— Скажы мне, любае люстэрка, ці ёсць ад мяне ў гміне хто прыгажэйшы ды разумнейшы? Зырчэйшы і хітрэйшы? Ну, скажы, люстэрачка любае, ці хто такі не паявіўся?

А люстрэка блісне-жахне маланкай ды прамовіць:

— Няма, Райка, ад цябе гладчэйшай бабы ва ўсёй Энскай гміне, ні больш кемлівай, няма, і быць не можа!

Расце Райка ў моц жаноцкую, гладчэе, а і будуецца, не крыўдзячы зусім ГСу. Усім добра. Бо так і трэба. Народ мае чобаты і вёдры, Райка мае мураванку, ГС пра прыбытак дбаць не мусіць, абы хапіла ўжэнднікам на прэміі. Люстэрка не западзе, хукае ўласным гарачым дыхам на яго Райка са сваіх пухкіх гарачых грудзей, паліруе яго ўласнай насовачкай, а яно не шчадзіць ёй камплімэнтаў, зусім не менш чым камендант ці дырэктар школы, не гаворачы пра мужа Райчынага, прымачка Цімошку, што ціха солтысуе, пашаньку арэ кулковым трактарам, пра ўласны камбайн мроіць...

Жылі б далей усе ў справядлівасці доўга і шчасліва, каб не Сняжына, Цімошкава далёкая пляменніца. Вырасла, гадаўка, хутка так, а харошая, халерка! Кончыла эканамічны ліцэй у Беластоку, ды жыць там не хоча чамусьці! Дай ёй клуб! Даў ёй клуб Цімошка-солтыс, даў ёй усяго іншага, каб толькі не ведала Райка, бо што мае ведаць яна стоячы ў жалезнай краме пра тое, што робіцца ў хаце тады, калі яна там стаіць або едзе ў гміну? Традыцыйна зноў аднойчы запыталася ў люстэрка Райка пра сваю красу ды розум, а яно памутнела ды ціха скрыпнула:

— Харошая ты, Райка, як райскае яблычка, і хітрая, як лісічка, але хітрэй ды прыгажэй ад цябе Сняжына!

Думала Райка швагерку разарваць як жабу, меркавала камерцыйна знішчыць клуб, дзе не толькі жалезнае, але і вадкаснае прадаецца, рыхтавалася нават наслаць на яе рускую мафію... Ды тая мафія сама ж са Сняжынай трымае, пастаўляе ёй „Раял". А калі ў аколіцы пачалі дзейнічаць яшчэ дзесяцёх прадпрымальнікаў-кіяскёраў, апалі Райцы рукі ніжэй грудзей. Найгорш, што вёдраў цынкавых амаль ніхто купляць сёння не хоча. А і Цімошка пераверуўся да маладзейшае разам з нованабытым камбайнам.

Люстэрка шкада. Нікога ўжо яно не пахваліць лісліва, нікому і горкай праўды не ўрэжа. Ляжыць, усё ў аскепках, у сметніку за гміннай малачарняй.

**Кукша**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. масляністае рэчыва, якое ўтрымліваецца ў жывёльных і раслінных тканках, 4. візантыйскі палкаводзец эпохі імператара Юсцініяна I, які перамог вандалаў (505-565), 6. ашуканне пры падліку, 7. тонкі ствол без сукоў, 9. горы і паўвостраў на выспе Хонсю а таксама праліў між Хонсю і Сікоку, 11. вялікі горад на ўсходзе Аўстраліі, 12. Вілем, галандскі мараплавец (1580—1625), адкрыў мыс Горн, 13. род злаякаснай пухліны, 15. Бранка, сербскі пісьменнік (1915—84), 17. „веласіпед" ведзьмы, 18. твор Бакачыю, 19. большы за мора.

**Вертыкальна:** 1. японская фірма, якая выпускае матацыклы і аўтамабілі, 2. мяккі белы парашок, які выкарыстоўваецца ў тэхніцы і медыцыне, 3. абломак разбітага посуду, 4. машына для язды, якая прыводзіцца ў рух нагамі, 5. амерыканскі нацыянальны парк заснаваны ў 1872 годзе з гейзерамі і вадаспадамі на рацэ той жа назвы, правым прытоку Місуры, 6. металічны вобад, які набіваецца на бочку, 8. драма Шэкспіра або опера Вердзі, 9. Кітайская народная рэспубліка, 10. зварот у суд, 14. спецыяліст у галіне атамнай энергіі, 16. жыве на паўночным усходзе Сібіры, 17. польскі праваслаўны генерал. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 38 нумара**

**Гарызантальна:** Колінз, ратонда, Чавусы, кантора, Раланд, прагал, Іпатава, Олдрын, знямога, страха.

**Вертыкальна:** прыкуп, штанга, Андора, качур, Ловел, „Нісан", Абавян, „Апалон", драпак, рулет, гурма, лінза.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Меў я сёння кашмарны сон.

— Што ж табе снілася?

— Снілася мне, што мая жонка пабілася за мяне з прыгожаю мільянеркай.

— І гэта мае быць кашмарны сон?

— Ну так, бо мая жонка перамагла.

* * *

— Маеш ногі як казуля!

— Такія грацыёзныя?

— Такія касматыя.

* * *

— Чаго ж гэта, суседка, вы так прыглядаецеся на маю бялізну: ці вы ніколі ў садзе не вешаеце?

— Вешаю, але толькі пасля сціркі.

* * *

— Уяві сабе такую сітуацыю: твой карабель разбіваецца і ты апынаешся на бязлюдный выспе. Якую кніжку ты хацела б там мець з сабою?

— Вытатуіраванага матроса.

* * *

— Мой муж зусім ка мне не ўзбуджаецца...

— Паспрабуй надзець нейкую сексоўную чорную бялізну.

— Ужо так зрабіла.

— І што, не памагло?

— Адвярнуў галаву ад газеты ды спытаў: „А хто памёр?"

* * *

— Навошта табе ліставая папера ў двух колерах: сінім і ружовым?

— На ружовым пішу Андрэю, бо гэта абазначае любоў. А на сінім Пятру, бо гэта абазначае вернасць.

* * *

Акуліст на працягу пятнаццаці мінут усё дапасоўвае акуляры старой бабульцы:

— Дапасаваць акуляры, — уздыхае, — гэта нялёгкая справа.

— Напэўна, — адказвае бабулька. — А ці вы ведаеце, што гэтыя акуляры маюць быць майму мужу?

* * *

Андрэй збіраецца на шлюб свайго васьмідзесяцігадовага дзядулі.

— І яшчэ яму хочацца жаніцца ў такім узросце?! — пытае Андрэя сябра.

— Яму не хочацца, ён мусіць!

* * *

— Татку, калі буду вялікі, ці змагу рабіць тое, што захачу?

— Думаю, сыночку, што не, бо тады будзеш жанаты.

* * *

— Ці гэта праўда, што жанчыны прыносяць на моры няшчасце?

— Так як і на сушы.